# «ШЧЫМІЦЬ СЭРЦА АД БОЛЮ ЗА СВОЙ НАРОД І БУДУЧЫНЮ СВАЁЙ КРАІНЫ»

## Выступленне Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Г. Шарэцкага на другой сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання 17 верасня 1996 года

Паважаныя дэпутаты Вярхоўнага Савета! Паважаныя члены Канстытуцыйнага суда! Шаноўныя журналісты і ўсе прысутныя на пасяджэнні! У жыцці кожнага бываюць такія моманты, калі чалавек павінен свае паводзіны ўзгадняць са сваім сумленнем, калі ўсё асабістае павінна адступіць, стаць дробяззю, а наперад павінна выйсці нешта больш значнае, калі абавязак і сумленне ўздзейнічаюць на чалавека ў адным напрамку і ён у сваіх паводзінах кіруецца толькі імі. Гэтыя моманты бываюць у трывожныя гадзіны для Радзімы, у цяжкія дні для сяброў. Гэта бывае не толькі ў час вайны. Можна прыводзіць вельмі шмат прыкладаў з гісторыі нашай Беларусі, калі ў мірныя дні правяралася сумленне кожнага грамадзяніна, прычым партыйнага і беспартыйнага.

Падобны момант перажывае наша рэспубліка і цяпер. Ад таго, як сёння павядзе сябе кожны з нас, будзе залежаць лёс нашай Радзімы, наш з вамі лёс, лёс нашых дзяцей і нават унукаў. Мы стаім на парозе рэферэндуму, дарэчы, супраць якога ніхто не выступаў і не выступае. І я не ведаю, каму патрэбен гэты лямант, што нейкія варожыя сілы перашкаджаюць камусьці параіцца са сваім народам. Ужо прынята пастанова Вярхоўнага Савета, вызначана дата правядзення рэферэндуму. Галоўнае пытанне на ім — змяненні і дапаўненні ў Канстытуцыю, а не тыя пытанні, аб чым учора гаварылася па тэлебачанні: перанясенне свята на 3 ліпеня, пытанні аб продаж зямлі і смяротнай кары. Бо адказ на іх ясны і без рэферэндуму.

Што датычыцца Канстытуцыі, дык ёсць два праекты змяненняў і дапаўненняў, і давайце зробім усё для таго, каб сапраўды народ вырашыў, які з іх падабаецца большасці людзей. Калі ніводзін, дык застанецца дзеючая Канстытуцыя.

Хачу вам далажыць, што сёння, параіўшыся з намеснікамі Старшыні Вярхоўнага Савета, я аддаў адзін і другі праекты ў Канстытуцыйны суд на прадмет адпаведнасці іх канстытуцыйным патрабаванням правядзення на рэферэндумах змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю. Думаю, што трэба было б аддаць і адзін і другі праекты на міжнародную экспертызу. Але ж для таго, каб улічыць усе заўвагі, трэба адклікаць абодва праекты і правесці рэферэндум не 24 лістапада, а недзе ў снежні. А калі не будзем рабіць гэтага, дык няхай народ вырашае сам, які з прапанаваных праектаў лепшы.

Але ж аб якой нарадзе з народам ідзе сёння гаворка пры такім становішчы ў краіне з інфармацыяй? Трэба проста не паважаць сваіх людзей, каб кожны дзень з экрана тэлевізара і па радыё падаваць ім хлусню. Аб якім выхадзе эканомікі з крызісу ідзе гаворка, калі шальмуюцца многія кіраўнікі перадавых калгасаў і саўгасаў, прамысловых прадпрыемстваў за тое, што яны маюць сваю думку? На мой погляд, менавіта таму іх прадпрыемствы і перадавыя, што ў іх ёсць свае меркаванні і пазіцыя.

Мне дакладна вядома, як сумленным дэпутатам «выкручваюць» рукі пад пагрозаю прадузятай праверкі іх гаспадарчай дзейнасці, прымушаючы падпісваць звароты. Я разумею становішча гэтых дэпутатаў і спачуваю ім. У кожнага з іх ёсць сям'я. Але ж, паважаныя калегі, трэба падумаць і аб тым, што будзе заўтра. Аб якой прававой дзяржаве можна гаварыць сёння, калі першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета не можа выступіць па тэлебачанні. І ўвогуле, чаго ж мы баімся даць слова іншым, калі так верым, што народ падтрымлівае прэзідэнцкі праект Канстытуцыі?

Разам з тым хачу вам паведаміць, што сёння я падпісаў і накіраваў ліст Генеральнаму пракурору з просьбай узбудзіць крымінальную справу ў адносінах да старшыні Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Кісяля па прыкметах злачынства, прадугледжанага артыкулам 167 Крымінальнага кодэкса, і ў сувязі з перавышэннем ім сваіх службовых паўнамоцтваў. Аб якой маралі ідзе гаворка, калі на самым версе грамадства ёсць людзі, прафесіяй якіх сталі правакацыі і паклёпы, прычым самым брудным чынам.

Усё гэта толькі яшчэ раз падкрэслівае праўдзівасць тых ацэнак, якія я даў у сваім артыкуле. Трэба мець на ўвазе, што яшчэ не прынята прэзідэнцкая Канстытуцыя. А што ж будзе тады, калі, барані Божа, яна пачне дзейнічаць?! І зусім тут справа не ў Аляксандру Рыгоравічу. Бог яго ведае, хто гэтай Канстытуцыяй скарыстаецца. Мы ўжо ведаем, як гэта было і чым гэта закончылася.

Паважаныя дэпутаты, перад вамі, як і перад усімі жыхарамі краіны, ёсць два праекты Канстытуцыі. Падабаецца некаторым з вас прэзідэнцкі праект і тое грамадства, якое будзе пабудавана згодна з гэтай Канстытуцыяй, калі ласка, галасуйце за яго, але не шальмуйце і не гвалтуйце тых, хто выступае супраць гэтага цемрашальства, як яго называюць тыя, хто прачытаў гэты праект, — добрасумленныя нашы і замежныя юрысты.

І тут ужо гаворка ідзе не аб тым — падтрымліваеце вы Прэзідэнта альбо Вярхоўны Савет? Так пытанне ніколі не ставілася. І Прэзідэнт, і дэпутаты абраныя народам. Хіба ж можна ставіць: каго хто падтрымлівае? І адны, і другія падтрыманы народам. Так ставіць пытанне могуць толькі нядобрасумленныя людзі.

Пытанне стаіць аб тым, якой быць Канстытуцыі, а значыць, і грамадству. І, каб знайсці ўзаемапаразуменне ў вырашэнні гэтага пытання, зразумела, мэтазгодна адклікаць абодва праекты і стварыць пагадняльную камісію, якая ўлічыла б усе заўвагі. Дарэчы, на запыт кіраўніцтва Федэрацыі прафсаюзаў аб гэтым я адказаў станоўча ў пісьмовай форме.

Думаю, было б правільна, каб сёння ці заўтра мы яшчэ раз звярнуліся з прапановай да Прэзідэнта аб адкліканні абодвух праектаў Канстытуцыі, склалі пагадняльную камісію і прыйшлі да нейкай згоды, бо ўсе астатнія выказванні аб тым, што потым будуць улічаны ўсе заўвагі, — гэта падман. Калі людзі прагаласуюць, — усё застанецца на месцы.

Што датычыцца мяне, дык мне, калі чытаў праект прэзідэнцкай Канстытуцыі, шчымела сэрца ад болю за свой народ і будучыню маёй краіны, якая яе чакае, калі, барані Божа, прыйдзецца жыць згодна з такім Асноўным законам. І дзе б я ні працаваў — старшынёй калгаса, выкладчыкам у вышэйшай партшколе альбо Старшынёй Вярхоўнага Савета, — я даў бы гэтаму праекту тую ацэнку, якую я даю сёння. Разам з тым я скажу, што не ўсё мне падабаецца і ў другім праекце.

Паважаныя калегі! Сёння я ведаю, што ідзе збор подпісаў (не будзем гаварыць ужо, якім шляхам) аб недаверы мне. У гэтай сувязі я сам хацеў бы паставіць пытанне аб Старшыні Вярхоўнага Савета ў парадак дня нашай сесіі. У такія цяжкія гадзіны можна працаваць толькі на ўзаемадаверы. І калі ваш давер ёсць, я і далей буду працаваць сумленна, як і працаваў. Калі няма — на гэта ваша воля і права. Я буду толькі такім, які я ёсць сёння. Я магу памыляцца, і памыляюся, але ніколі не шкадаваў сябе дзеля агульнай справы і імкнуўся выконваць яе сумленна.

Вы памятаеце, як я на працягу пяці месяцаў рабіў усё, часам і супраць самога сябе, каб знайсці ўзаемапаразуменне з Прэзідэнтам. Але ж, калі я пераконваўся, што паразуменне іншаму боку не патрэбна, я займаў прынцыповую пазіцыю і ад яе не адступлю, кім бы я ні быў, не выключаючы і тую высокую пасаду, на якую вы мяне абралі. Зразумела, прынцыповасць у межах законаў, а не ўпартасць.

Дзякуй за ўвагу.

## УКАЗ
### Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь
№ 368

**Аб згодзе на прыцягненне да крымінальнай адказнасці і прыпыненне судовых паўнамоцтваў суддзі Весяловай Т. С.**

Кіруючыся артыкулам 65 Закону Рэспублікі Беларусь «Аб судовым ладзе і статусе суддзяў у Рэспубліцы Беларусь», **пастанаўляю:**

Даць згоду на прыцягненне да крымінальнай адказнасці і прыпыненне судовых паўнамоцтваў суддзі суда Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці Весяловай Тамары Самуілаўны.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**

17 верасня 1996 г.
г. Мінск.

## У БЕЛАРУСІ Ў Г. ЗЮГАНАВА — ШМАТ СУСТРЭЧ

**18 верасня ў Мінск прыбыў лідэр фракцыі камуністаў Дзяржаўнай Думы Расіі Генадзь Зюганаў.**

У аэрапорце «Мінск-2» госця сустрэў першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі сакратар ЦК Партыі камуністаў беларускай Васіль Новікаў. Адразу ж па прыбыцці ў беларускую сталіцу Генадзь Зюганаў гутарыў за зачыненымі дзвярамі з кіраўніцтвам ПКБ. У той жа дзень адбыўся абмен думкамі расійскага камуніста з прадстаўнікамі фракцый беларускага парламента, кіраўніцтвам Вярхоўнага Савета па актуальных палітычных пытаннях, праблемах міжпарламенцкага супрацоўніцтва. Па завяршэнню першага дня візіту Генадзя Зюганава запланавана яго выступленне ў Авальнай зале перад дэпутацкім корпусам.

Мяркуецца, што 19 верасня маскоўскага палітыка прыме Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.

**Ларыса ЛАЗАР, БЕЛТА.**

## БАРАНАВІЦКІЯ ТЭКСТЫЛЬШЧЫКІ ЎЗДЫХНУЛІ З ПАЛЁГКАЙ

**Да канца бягучага года тэкстыльшчыкі Баранавіцкага вытворчага баваўнянага аб'яднання работай будуць забяспечаны.**

Як паведаміў генеральны дырэктар аб'яднання Сяргей Руцкі, пара вымушаных водпускаў, нарэшце скончылася. Нагадаем, што баваўняная вытворчасць на працягу лета неаднойчы спынялася з-за адсутнасці сыравіны і абаротных сродкаў. У жніўні на складах прадпрыемстваў знаходзілася прадукцыі на значную суму, а агульная сума даўгоў перавышала 60 мільярдаў рублёў. Прадпрыемствы баваўнянага аб'яднання стабільна працуюць з 19 жніўня, калі ўзбекскія партнёры паставілі 1200 тон бавоўны. Па словах Сяргея Барысавіча, сёння адбываецца пагрузка 5500 тон бавоўны для прадпрыемстваў Беларусі, 3300 тон з якіх будуць накіраваны на Баранавіцкае аб'яднанне, што забяспечыць патрэбы прадпрыемстваў да канца бягучага года. За месяц работы прадпрыемствы поўнасцю разгрузілі склады. Большая частка прадукцыі (60 працэнтаў) экспартуецца ў Германію, Данію, Швецыю, Італію, Літву, іншыя краіны далёкага і блізкага замежжа. «На аб'яднанні практычна не адбываецца скарачэнне працоўных,» — дадаў генеральны дырэктар. Сёння на вытворчасці занята звыш 6 тысяч тэкстыльшчыкаў.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### ПАЎНОЧНЫ ІРАК: ЗША ХОЧУЦЬ ДАПАМАГЧЫ, АЛЕ ПАКУЛЬ НЕ ВЕДАЮЦЬ КАМУ

Лідэр групоўкі курдскай дэмакратычнай партыі (КДП) Барзані ўчора прыбыў у Турцыю. Ён перасек мяжу з картэжам з шасці аўтамабіляў і накіраваўся ў горад Дзіярбакір. Прадстаўнік КДП заявіў, што падчас свайго візіту Барзані сустрэнецца з міністрам замежных спраў Турцыі, а таксама з намеснікам амерыканскага дзяржсакратара Робертам Келетра. Як вядома, Масуд Барзані пайшоў на часовы альянс з Садамам Хусейнам для таго, каб атрымаць цэлы шэраг ваенных перамог у Паўночным Іраку над сіламі патрыятычнага саюза Курдыстана (ПСК). Амерыканцы хочуць, каб Барзані спыніў супрацоўніцтва з рэжымам Хусейна, а яго сапернік Талібані больш не шукаў дапамогі ў Ірана. Прадстаўнікі ЗША некалькі гадоў спрабавалі пасрэднічаць у кантактах паміж дзвюма курдскімі групоўкамі, але ніколі раней праблемам Паўночнага Ірака не ўдзялялі ўвагі на такім высокім узроўні. Падзеі некалькіх апошніх тыдняў радыкальна змянілі сітуацыю.

### НАСТУПЛЕННЕ ТАЛІБАЎ НА КАБУЛ АДБІТА

Прадстаўнік узброеных сіл афганскага ўрада паведаміў, што войскі адбілі чарговы напад у ноч на сераду апазіцыйнага руху «Талібан» на афганскую сталіцу Кабул. У наступленні на пазіцыі ўрадавых войскаў на поўдзень, на паўднёвы захад і на захад ад горада ўдзельнічала каля 400 салдат пры падтрымцы бранятэхнікі. Напад быў самым жорсткім за апошнія некалькі месяцаў. Нагадаем, што на мінулым тыдні «Талібан» захапіў горад Джалалабад, які дагэтуль быў нейтральным.

### ІЗРАІЛЬ АХАПІЛА ПАНІКА

Ізраільскі прэм'ер Нетаніягу расцаніў нядаўнія перамяшчэнні сірыйскіх войскаў у Ліване як спробу псіхалагічнага ціску на Ізраіль, каб прымусіць яго пайсці на тэрытарыяльныя ўступкі. Нетаніягу сказаў, што такая тактыка не спрацуе. Паводле паведамленняў з Лівана, амаль трэць 35-тысячнай арміі адводзіцца ад Бейрута і перадыслацыруецца на абарончыя пазіцыі бліжэй да сірыйскай мяжы з-за апасення ўварвання з боку Ізраіля. У самым Ізраілі перасоўванне сірыйскіх войскаў на адлегласць прамога ўдару нагадала кашмар 1973 года, калі Сірыя і Егіпет пачалі нечаканае наступленне, прымеркаванае да яўрэйскага рэлігійнага свята, якое адзначаецца на наступным тыдні.

### ПАПА РЫМСКІ НАВЕДАЕ ФРАНЦЫЮ

Ян Павел II рыхтуецца ажыццявіць чатырохдзённую паездку ў Францыю. Яна прымеркавана да 1500-й гадавіны, як кароль франкаў Хлудвіг схіліўся да каталіцызму. У французскай сталіцы больш за 6 тысяч салдат і паліцэйскіх будуць забяспечваць бяспеку папы рымскага.

**Паводле паведамлення радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё-РОКС» і «Радыё Расіі».**



## А што са 101,2?..

**Многіх цікавіць зараз пытанне, калі выйдзе ў эфір беларускае «Радыё 101,2 FM». Наш карэспандэнт вырашыў высветліць сітуацыю. З гэтай мэтай мы звязаліся з дырэктарам радыё Зміцерам Новікавым і начальнікам упраўлення тэлебачання і радыё Валерам Сямейкам.**

Як аказалася, адказ на афіцыйны ліст ад 101,2 яшчэ толькі рыхтуецца, паралельна ў Гомелі ўжо заказана антэна, якая будзе ўстаноўлена ў Калодзішчах, і ўжо рыхтуецца неабходная дакументацыя. Валер Сямейка паведаміў, што на працягу месяца (плюс-мінус тыдзень) гэта пытанне будзе вырашана.

Зміцер Новікаў настроены больш песімістычна. Ён лічыць, што для падрыхтоўкі загаду, праекта пераносу, яго зацвярджэння і ўстаноўкі антэны і перадатчыка спатрэбіцца не менш як 1,5—2 месяцы. Між тым, выраб антэны каштуе немалыя грошы, а паколькі несці расходы павінна Міністэрства сувязі, невядома, калі наогул яна будзе ўстаноўлена.

На пытанне, чым зараз займаецца калектыў «Радыё 101,2», Зміцер Новікаў адказаў лаканічна: «Чым звычайна». Гэта значыць — паранейшаму рыхтуюць матэрыялы, наведваюць прэс-канферэнцыі, але ўжо для беларускай рэдакцыі Варшаўскага радыё, радыёстанцый BBC, Deutsche Welle, якія аказваюць пасільную матэрыяльную і маральную падтрымку 101,2.

**Яна САВІЦКАЯ.**

## НАДВОР'Е

**Маладзік 13 верасня**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, пераважна без ападкаў, толькі месцамі па Віцебскай і Магілёўскай абласцях пройдуць невялікія дажджы. Тэмпература паветра ў Віцебску — 8—10, Магілёве — 9—11, Мінску, Гомелі — 10—12, Брэсце, Гродне — 12—14 градусаў.

У наступныя двое сутак пераменная воблачнасць, без ападкаў. Уначы на значнай частцы тэрыторыі замаразкі да 0— мінус 3; удзень — 9—14 градусаў цяпла.

*Ад усяго сэрца віншуем нашу любую матулю Галіну Нікіцічну Грынкевіч з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, шчасця і радасці ў жыцці.*

*Дочкі, зяці і ўнукі, в. Азярычына.*

# ДУМАЙ, НАРОД, ДУМАЙ!

## «КАМУ ПАТРЭБНА ТАКАЯ НЕРАЗБЯРЫХА І СПЕШКА?»

У № 223 ад 10 верасня 1996 г. рэдакцыяй «Звязды» была ўведзена рубрыка «Думай, народ, думай!» з прычыны ўсенароднага абмеркавання грамадскасцю праектаў новых рэдакцый Канстытуцыі рэспублікі. Хацелася б выказаць і свае пажаданні.

На сённяшні дзень здзіўляючую актыўнасць і настойлівасць у дасягненні сваіх мэтаў праводзяць абедзве нашы кіруючыя галіны ўлады — прэзідэнцкая і парламенцкая. Сродкі масавай інфармацыі літаральна бурляць ад часам узаемавыключальных заяў, указаў, нечаканых падрабязнасцей і фактаў. Дастаткова хоць бы беглага позірку і аналізу падзей палітычнага алімпу Беларусі толькі аднаго мінулага тыдня, каб пераканацца ў нестабільнасці сітуацыі і лагічна паставіць асноўнае пытанне: што ж нас чакае ў будучым?

Думаю, што не адзін чалавек сур'ёзна занепакоены такім становішчам з законнасцю ў краіне. Зусім натуральнае пытанне: для чаго і каму патрэбны такая неразбярыха і спешка? І да чаго добрага, канструктыўнага і карыснага ўсё гэта прывядзе?.. Асабіста мне імпануе думка простых і сумленных працаўнікоў, прафсаюзаў: не прымаць ажыятажна ніводны дакумент. Акрамя таго — чаму нясмела выступіла і маўчыць самая галоўная ў краіне судзейская ўлада — Канстытуцыйны суд?! Можа аказацца і так (гэта не выключана), што менавіта яму, незалежнаму арбітру, які стаіць на варце народнай законнасці — і нікому іншаму — прыйдзецца развязваць у хуткім часе ўвесь гэты «гордзіеў вузел»...

Думка народа... Ведаеце — гэтым, напэўна, усё ж нельга «з неймавернай лёгкасцю» кідацца, гуляць і жартаваць...

Вось і думаеш у выніку: штосьці тут не так. Не такім жа шляхам вырашаюцца лёсы дзяржавы і цэлага народа!

**Э. ГАРЭН.**

*г. Мінск.*

## «ПРОСТЫ НАРОД ЗА НАМЕНКЛАТУРУ ГАЛАСАВАЦЬ НЕ БУДЗЕ»

Хацелася б выказаць на старонках вашай газеты «Звязда» свае меркаванні наконт рэферэндуму. Я вельмі перажываю за нашага Прэзідэнта. Наша сям'я галасавала за яго, хаця былі і сумненні. Цяпер я вельмі рады, што мы не памыліліся ў яго кандыдатуры. Гэта той чалавек, які нам патрэбны, які хоча для простага народа штосьці зрабіць у лепшы бок. Але асобныя панове са скуры вылазяць, каб нашага Прэзідэнта А. Р. Лукашэнку адхіліць, перашкодзіць, прынізіць гэтага вельмі сумленнага чалавека. Гэтыя панове прыкрываюцца народам. Маўляў, усё робяць для народа. А народ жа ведае, што гэта абсурд. Вы стараецеся захапіць уладу і рабіць тое, што вам больш выгадна. Можа, хопіць мучыць народ і тых, хто па-сапраўднаму хварэе за народ? Панове Шушкевіч, Карпенка, Ганчар, Новікаў, Шарэцкі і многія іншыя абаронцы народа! Мы так вам верылі. А вы? А вось яшчэ адзін буйны лідэр, пан Багданкевіч, ці мала вы народ абрабавалі? Усе нашы зберажэнні — цю-цю, затое ўся ваша эліта жыве прыпяваючы. А некаторыя нашы грамадзяне толькі на хлеб і ваду маюць. І я ў тым ліку, атрымліваю крыху больш як трыста тысяч. Але гэта не Лукашэнка вінаваты. Лукашэнку няма чаго даць. І просты народ усё разумее. І я буду галасаваць толькі за яго рэферэндум 7 лістапада, а не 24-га 1996 г., як пастанавіў Вярхоўны Савет. Самі пастанавілі, самі і галасуйце. Просты народ за вашу наменклатуру галасаваць не будзе.

Толькі трэба ведаць, якія пытанні ставіць Прэзідэнт, каб просты народ быў за яго. Я буду галасаваць за закон і справядлівасць. Каб усе былі роўныя перад законам, каб наш Прэзідэнт меў уладу любога спыніць, у тым ліку і Вярхоўны Савет, які так баіцца прайграць рэферэндум. Я ўпэўнена, што менавіта так і будзе.

Я шчыра спадзяюся, што разважнасць пераможа. Нам усім патрэбны мір і згода. Давайце на старонках газет абмяркоўваць думкі народа.

**А. ЛАГУН.**

*Мядзельскі раён, г. п. Нарач.*

## «ЧАМУ Ж ВЫ НЕ ДРУКУЕЦЕ ЗВАРОТ ШАРЭЦКАГА?»

Атрымалі Вашу газету ад 13 верасня 1996 г. і былі вельмі ўзрушаны, прачытаўшы інтэрв'ю Васіля Новікава і Сяргея Посахава адносна «Звароту да народа» Старшыні Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага.

Мы выпісваем вашу газету, каб мець інфармацыю з першых рук: гэта значыць, што мы хацелі б прачытаць у вашай газеце ў першую чаргу «Зварот да народа» Шарэцкага і мець сваё меркаванне адносна гэтага звароту.

Бог дае кожнаму чалавеку розум, і кожны чалавек жадае жыць сваім розумам, а не розумам Новікава ці Посахава.

**Падпісчыкі «Звязды»**
**НЕКРАШЭЎСКАЯ, Н. І.,**
**НЕКРАШЭЎСКІ В. В.,**
**ДРАГАН З. В., ДРАГАН В. С..**

*г. Маларыта Брэсцкай вобласці.*

## «ПАКУЛЬ ШТО ПРЭЗІДЭНТА ТОЛЬКІ ЎСХВАЛЯЮЦЬ...»

Я ўжо не працую 7 месяцаў. Маю статус беспрацоўнага і атрымліваю за гэта аж 230 тыс. рублёў у месяц. Можна за гэтыя грошы пражыць?

Міністр працы Сасноў у інтэрв'ю вашай газеце сказаў: «Павялічваць памер дапамогі па беспрацоўю нельга, таму што беспрацоўны не будзе імкнуцца шукаць працу». А дзе тая праца? Чаму нас прыніжаюць? Нам, беспрацоўным, дзяржава павінна заплаціць за нанесены маральны ўрон, за тое, што нас выкінулі, а не абвінавачваць у нежаданні працаваць. І чаму ўсім беспрацоўным, акрамя дзяржслужачых, выплачваюць па беспрацоўю сярэдні заробак, але не болей як дзве мінімальныя зарплаты? Дзе ж справядлівасць, пра якую так гаворыць Прэзідэнт?

Паважаная рэдакцыя, цяпер ідзе падрыхтоўка да рэферэндуму. Просьба аб'ектыўна асвятляць і друкаваць на старонках газеты розныя думкі і погляды людзей, не толькі аднадумцаў Прэзідэнта, але і Вярхоўнага Савета (які таксама быў абраны народам). Пакуль што радыё і тэлебачанне толькі ўсхваляюць Прэзідэнта і яго прапановы, а гэта недэмакратычна.

**Ганна КАВАЛЁВА.**

*г. Гомель.*

## «МАЛЕНЬКІ ПАРЛАМЕНТ ЗНОЎ БУДЗЕ ЗНЕВАЖАЦЦА ВЯЛІКІМ ПРЭЗІДЭНТАМ І ПАДРОСШЫМ УРАДАМ»

Спецыяльна перагартала газеты, мясцовыя і цэнтральныя, каб сябе пераправерыць у правільнасці ўжывання вялікіх і маленькіх літар і пераканалася, што там у розных кантэкстах стракацяць пасады кіраўнікоў усіх краін свету, але што цікава: прэзідэнт Польшчы Аляксандр Квасьнеўскі, канцлер Германіі Гельмут Коль, прэзідэнт ЗША Біл Клінтан, прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын, але Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Адзіны з усіх сусветных лідэраў — Прэзідэнт. Нават цар Мікалай II і імператар Напалеон — з маленькай, і толькі наш адзіны — кіраўнік з вялікай літары. Я не пра культ асобы і не пра самалюбаванне вышэйшай службовай асобы дзяржавы, а пра залішнюю патэтычнасць як дзеючай, так і новай рэдакцыі Канстытуцыі РБ. А таксама аб ліслівым перанясенні ўрачыстасці назваў Асноўнага закона ў штодзённую рэчаіснасць журналістамі і рэдактарамі дзяржаўных СМІ.

Чалавек, вядома ж, гучыць горда, але чалавек да таго ж і слабы. Калі яму пастаянна ўнушаць, што — ён з вялікай літары, то рана ці позна ён у гэта пачынае верыць.

Канстытуцыя 1994 года, як сцвярджаюць некаторыя, пісалася пад прэм'ера Кебіча. Новы праект напісаны, і ніхто гэтага не хавае, пад дзеючага кіраўніка. У гэтым яе асноўныя недахопы. Ананімныя заканадаўцы не ўтрымаліся ад недарэчных у такім важным для дзяржавы дакуменце, як Асноўны закон, нізкапаклонства і рэверансаў. Патрэбны прыклады? Вось толькі некалькі з велізарнай колькасці. Арт. 22 праекта: «Усе роўныя перад законам і маюць права без усякай дыскрымінацыі на роўную абарону правоў і законных інтарэсаў». Здавалася б, вычарпальна. Але ёсць і той, хто раўнейшы за іншых. Арт. 79: «Прэзідэнт валодае недатыкальнасцю, яго гонар і годнасць абараняюцца законам». Абараняць спецыяльным законам гонар і годнасць іншых выбраннікаў народа — дэпутатаў ніжняй палаты прадстаўнікоў ці назначаных сенатараў верхняй не прадугледжваецца. Яны, згодна з арт. 102 праекта Канстытуцыі, карыстаюцца нейкай асаблівай разнавіднасцю недатыкальнасці: «пры выказванні сваіх думак і ажыццяўленні сваіх паўнамоцтваў. Гэта не адносіцца да абвінавачання іх у паклёпе і зневажанні». А паколькі на любое, самае вытрыманае, выступленне дэпутата хтосьці заўсёды крыўдзіцца, то тэзіс аб дэпутацкай недатыкальнасці становіцца міфам.

Згодна з артыкулам 88 прэзідэнт нясе адказнасць за дзяржаўную здраду і іншае цяжкае злачынства. Але зняць яго з пасады і прыцягнуць да адказнасці з-за складанасці прапісанай працэдуры і асабістай залежнасці назначаных сенатараў практычна немагчыма. За тыя ж злачынствы дэпутаты і сенатары прыцягваюцца да крымінальнай адказнасці нават без разгляду пытання ў палатах аб зняцці з іх дэкларавана́й недатыкальнасці. Тут прынцып роўнай адказнасці ўсіх грамадзян перад законам перамагае. Яшчэ адна недарэчнасць. Суддзі не могуць выконваць іншую аплатную работу, акрамя выкладчыцкай і навукова-даследчай (арт. 111). А раптам суддзя яшчэ і літаратар ці таленавіты кампазітар, што тады рабіць? Кнігі і кантаты не аплачваць? Несправядліва! Новая ж Канстытуцыя прадугледжвае, што прэзідэнт можа быць і мастаком, пісьменнікам ці спеваком і атрымліваць за гэта адпаведныя ганарары (арт. 86). Дзе тут прынцып роўнасці?

Але самая вялікая несправядлівасць змяшчаецца ў арт. 91 праекта: «Асобы, якія раней займалі пасаду Прэзідэнта, з'яўляюцца сенатарамі пажыццёва, калі самі не адмовяцца ад гэтага». Прыехалі! Нават калі не справіцца з даручанай справай, няхай яго папракае і нават праклінае народ — але пажыццёвае крэсла ў сенаце забяспечана. Праз нейкі час можа ўтварыцца цэлая фракцыя былых прэзідэнтаў у парламенце. Гэты артыкул, на мой погляд, самы цынічны. Людзі яго адхіляць. Гэта дрэнная паслуга дзеючаму кіраўніку дзяржавы.

І апошняе. Усё тая ж тэма роўнасці. На нейкім падсвядомым узроўні праектанты апасаюцца, што і ў новым парламенце акапаюцца ворагі, і свае здагадкі адлюстроўваюць у тэксце: «Прэзідэнт, парламент, Урад на працягу двух месяцаў...» (гл. арт. 146). Гэта зусім няважна, што іменна трэба будзе зрабіць за гэты тэрмін, важна, што парламент зноў маленькі і што яго зневажаюць вялікі Прэзідэнт і падросшы Урад. Нават граматычна.

**Валянціна ТАРАН, юрыст.**

*г. Мінск.*

---

З ПОШТЫ ПРЭЗІДЭНТА

## Улада павінна быць у таго, хто працуе, а не спажывае

**Абвастрэнне ўнутрыпалітычнага жыцця краіны, выкліканае канфрантацыйнымі дзеяннямі Вярхоўнага Савета, не пакідае раўнадушнымі грамадзян Беларусі. У гэтыя дні асабліва павялічыўся паток пісьмаў, адрасаваных кіраўніку дзяржавы. Ініцыятыву Аляксандра Лукашэнкі па правядзенню рэферэндуму адабраюць і асобныя жыхары рэспублікі, і цэлыя грамадскія арганізацыі.**

Фінансавую дапамогу плебісцыту вырашыў аказаць працоўны калектыў аптовага арэнднага прадпрыемства «Мінбакалеягандаль». Яго працаўнікі на агульным сходзе пастанавілі пералічыць з прыбытку прадпрыемства 100 мільёнаў рублёў на пакрыццё расходаў, звязаных з усенародным галасаваннем. Матэрыяльна падтрымаць рэферэндум мае намер і калектыў фізкультурна-спартыўнага аб'яднання «Спартак» прафсаюзаў Магілёўскай вобласці. У тэлеграме, накіраванай Прэзідэнту, гаворыцца, што ў фонд яго правядзення калектыў накіроўвае 25—50 мільёнаў рублёў з зароблены́х ім сродкаў. Ветэранскія арганізацыі Лельчыцкага, Веткаўскага, Петрыкаўскага і Брагінскага раёнаў Гомельшчыны таксама вітаюць ініцыятыву кіраўніка дзяржавы. Да іх далучаюцца галасы ветэранаў Жлобіна, Баранавіч, Савецкага і Навабеліцкага раёнаў Гомеля і самога абласнога цэнтра.

Асабліва шмат пісьмаў шлюць Аляксандру Лукашэнку сяляне. Гэта Марыя Прушак з вёскі Ямінск Любанскага раёна, Віктар Туеў з пасёлка Чысць Маладзечанскага раёна, Людміла Дудко з калгаса «Камінтэрн» Барысаўскага раёна і дзесяткі іншых аўтараў. Яны адзначаюць сумленнасць Прэзідэнта і яго глыбокую павагу да народа, аб чым сведчыць імкненне параіцца з ім праз плебісцыт. Выказваюцца і радыкальна настроеныя грамадзяне. Так, мінчанін Віктар Размысловіч лічыць, што пара ўвесці ў краіне прамое прэзідэнцкае кіраванне. А Вярхоўнаму Савету ён прапануе скласці свае паўнамоцтвы. Да роспуску парламента заклікае і жыхар Магілёва Мікалай Шкет, які лічыць, што «ў дзяржаве павінен быць адзін гаспадар — Прэзідэнт, а не сотні дэпутатаў». Падобная думка і ў пенсіянера В.Бортніка. Ён піша, што «Беларусі не патрэбны непрацуючыя галіны ўлады, павінна быць адна — працуючая».

**БЕЛТА.**

---

## Як мяне забракавалі на сход

**Чытаю Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 341 «Аб скліканні Усебеларускага сходу», дзе пунктам 5 запісана: «Рэспубліканскаму арганізацыйнаму камітэту па падрыхтоўцы і правядзенню Усебеларускага народнага сходу сумесна з абласнымі, раённымі, гарадскімі тэрытарыяльнымі арганізацыйнымі камітэтамі арганізаваць работу па вылучэнню і дэлегаванню на Усебеларускі народны сход найбольш аўтарытэтных прадстаўнікоў працоўных калектываў і аб'яднанняў, прадпрыемстваў, прадстаўнікоў навучальных устаноў і г. д.»**

Здаецца, усё як след, але... Як зразумелі гэта ў Салігорскім гарвыканкоме?

Зусім проста, як у часы даўняга партыйнага кіравання. Там упэўнены, што форуму патрэбны, з аднаго боку, маўчальнікі-пагаджальнікі, а з другога — хто думае адно, гаворыць другое, а робіць трэцяе.

Вось факт, які сведчыць аб гэтым.

З гарвыканкома паступіла прапанова да нашага калектыву Салігорскага горнахімічнага тэхнікума вылучыць аднаго дэлегата. Назвалі маё прозвішча. І што вы думаеце?

Праз ноч старшыня прафсаюзнага камітэта тэхнікума, які павінен быў арганізаваць сход калектыву, атрымлівае папярэджанне — сход калектыву не рыхтаваць, ад нашай арганізацыі дэлегат не патрэбен, перагледзелі квоту.

З аднаго боку — дробязь, але прыемна, што нават ноччу арганізацыйны камітэт рыхтуецца да сходу, а з другога — шкада іх, небарак, гэтак жа можна і бяссонніцу нажыць або нейкую іншую хваробу, калі яны яшчэ не хворыя. Аднак жарты—жартамі, а калі сур'ёзна, дык чым жа я раней не задавальняў партыйцаў, а цяпер — «дэмакратаў»?

Тым больш сёння, калі ідзе абмеркаванне змяненняў у Канстытуцыю, дзе, як напісана, удзяляецца ўвага правам чалавека, правам асобы. Але нічога тут загадкавага няма.

Справа ў тым, што я маю сваю думку, якая не заўсёды супадае з думкай «першых» і ніколі не хаваюся ў закутку, а магу яе выказаць.

**Мікола ШАРКО.**

г. Салігорск.

---

З ПОШТЫ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА

## НЕ ДАЗВОЛІМ СЯБЕ ПАДМАНУЦЬ

**У гэтыя дні пошта Вярхоўнага Савета багатая пісьмамі, у якіх выказваецца стаўленне да рэферэндуму, да сітуацыі ў краіне, да вышэйшага кіраўніцтва дзяржавы. Пісьмы прыходзяць як ад асобных людзей, так і ад цэлых калектываў.**

Напрыклад, шэраг грамадскіх і палітычных арганізацый з Пінска, сярод якіх рэгіянальныя аддзяленні Экалагічнай партыі і партыі «Зялёны свет», Беларускай дэмакратычнай арганізацыі ветэранаў, БСДГ, БНФ, БЗВ, ТБМ, даслалі ліст, дзе выказваецца падтрымка «намаганням Вярхоўнага Савета па захаванню канстытуцыйнай законнасці ў Рэспубліцы Беларусь, па падзелу ўладаў у межах існуючай Канстытуцыі».

Акрамя таго, пінчукі паведамляюць, што ў верасні ў горадзе адбудуцца дазволеныя заканадаўствам мерапрыемствы, накіраваныя на падтрымку беларускага парламента, яго дзеянняў па захаванню існуючай Канстытуцыі і грамадзянскага міру на Беларусі.

Аналагічны ліст прыйшоў і з Гродна ад мясцовага аддзялення Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ветэранаў. Праўда, у ім ветэраны звяртаюцца ўжо персанальна да Старшыні Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага. «Мы, ветэраны вайны і працы, пачулі Ваш гарачы заклік да народа Беларусі.

Мы падзяляем Вашу трывогу і Ваш боль з нагоды існуючай у нашай краіне палітычнай сітуацыі, прызнаём аб'ектыўнасць і чэснасць Вашых ацэнак, згодны з тым, што беларускі народ — памяркоўны і цярплівы, добразычлівы, даверлівы, працалюбівы, таленавіты і гераічны. Ён заслугоўвае іншай долі, чым тая, якую яму стараюцца падрыхтаваць», — гаворыцца ў пісьме.

---

РАСПАРАДЖЭННЕ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 272РП

## Аб стварэнні камісіі для абагульнення прапаноў і заўваг па праекту змяненняў і дапаўненняў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь

У мэтах абагульнення прапаноў і заўваг па праекту змяненняў і дапаўненняў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь:

1. Стварыць камісію пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у наступным саставе:

Абрамовіч Аляксандр Міхайлавіч — намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, доктар юрыдычных навук, прафесар (старшыня камісіі)

Сукала Валянцін Алегавіч — міністр юстыцыі (намеснік старшыні камісіі)

Галаўко Анатоль Аляксандравіч — прафесар юрыдычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, доктар юрыдычных навук

Жукоўскі Пётр Уладзіміравіч — начальнік упраўлення юстыцыі Гродзенскага аблвыканкома

Заразака Мікалай Мікалаевіч — старшыня Рэчыцкага гарвыканкома

Квасаў Пётр Рыгоравіч — загадчык юрыдычнага аддзела Магілёўскага аблвыканкома

Круталевіч Вадзім Андрэевіч — вядучы спецыяліст Інстытута філасофіі і права Акадэміі навук Беларусі, доктар юрыдычных навук, прафесар

Малумаў Юрый Георгіевіч — намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (з яго згоды)

Марыскін Аляксандр Уладзіміравіч — начальнік галоўнага ўпраўлення прававога забеспячэння Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, кандыдат юрыдычных навук

Матарас Валянцін Нікіфаравіч — навуковы супрацоўнік Інстытута філасофіі і права Акадэміі навук Беларусі, кандыдат юрыдычных навук

Паўлюкевіч Сяргей Сяргеевіч — намеснік старшыні Мінскага аблвыканкома

Праннік Віктар Віктаравіч — начальнік упраўлення юстыцыі Віцебскага аблвыканкома

Садоўская Валянціна Іванаўна — старшыня Кобрынскага раённага Савета дэпутатаў

Цікавенка Анатоль Герасімавіч — загадчык лабараторыі Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, доктар юрыдычных навук

Шабайлаў Віктар Іванавіч — дырэктар Навукова-даследчага інстытута праблем дзяржаўнай кадравай палітыкі і ўдасканалення дзяржаўнага кіравання Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі, доктар юрыдычных навук, прафесар.

2. Дазволіць старшыні камісіі прыцягваць да работы камісіі іншых работнікаў цэнтральных органаў кіравання, дзяржаўных прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый.

3. Прапанаваць міністэрствам, іншым цэнтральным органам кіравання, органам мясцовага кіравання і самакіравання да 1 кастрычніка 1996 г. прадставіць свае прапановы і заўвагі па праекту змяненняў і дапаўненняў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь у камісію.

4. Кіраўніцтву справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ажыццявіць фінансаванне камісіі і вырашыць іншыя пытанні матэрыяльнага і тэхнічнага забеспячэння дзейнасці камісіі.

5. Камісіі да 10 кастрычніка 1996 г. прадставіць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь на разгляд канчатковы тэкст праекта змяненняў і дапаўненняў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь для вынясення яго на рэспубліканскі рэферэндум.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**

17 верасня 1996 г.
г. Мінск.

***Франц ВІТКО:***

# «КАЛІ ЭКАНОМІКА РАЗВІВАЕЦЦА ДЫНАМІЧНА, У ГРАМАДСТВЕ СТВАРАЕЦЦА ІМУНІТЭТ СУПРАЦЬ САЦЫЯЛЬНЫХ ХВАРОБ»

## Наш карэспандэнт сустрэўся з намеснікам старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Францам ВІТКО

**— ФРАНЦ ПЯТРОВІЧ, як вы ацэньваеце цяперашнюю сітуацыю ў эканоміцы рэспублікі?**

— Сітуацыя ў эканоміцы і ў сацыяльнай сферы неадназначная, ёсць шмат супярэчнасцей, і рабіць высновы аб макраэканамічнай стабілізацыі здаецца занадта аптымістычным. Паказчыкі інфляцыі, рост якой на працягу апошніх месяцаў не перавышае 1,5—2 працэнтаў, бяруцца як асноўны доказ гэтай стабілізацыі. Але ці рэальныя яны? Трэба заўсёды бачыць за шыльдай уяўнага «цуду» ўсю палітру сацыяльна-эканамічных праблем. Гэта, па-першае, затрымка з выплатай заработнай платы, пенсій, стыпендый, дапамог, а таксама вялізныя неплацяжы прадпрыемстваў, іх крэдыторская і дэбіторская запазычанасць (зараз гэта каля 83 і 66 трыльёнаў рублёў адпаведна — амаль на ўзроўні ўсяго валавога ўнутранага прадукту, які выпрацаваны за сем месяцаў бягучага года). Існуе вялікае адмоўнае сальда гандлёвага балансу. Якая ж тут, прабачце, стабілізацыя? Відавочна, што рэспубліка жыве ў доўг, які яна некалі павінна аддаваць. Аб гэтым на нарадзе, прысвечанай абмеркаванню Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця на перыяд да 2000 года, гаварыла старшыня Нацыянальнага банка Віннікава. Па яе словах, якія грунтуюцца, відаць, на сур'ёзным аналізе, калі ліквідаваць усе штучна ўзведзеныя перашкоды, усе бар'еры, у тым ліку фіксаваны курс амерыканскага долара ў адносінах да беларускага рубля, то ўзровень аплаты працы будзе значна большы.

Цяпер аб росце вытворчасці. Сапраўды, назіраецца павелічэнне выпуску прадукцыі. Напрыклад, у нафтахіміі — за кошт удзелу галіны ў забеспячэнні пасяўной і ўборачнай кампаній гаруча-змазачнымі матэрыяламі. Гэта акалічнасць падштурхнула да росту аб'ёмаў вытворчасці і рэалізацыі.

**— А як наогул вы асабіста ахарактарызавалі б стан беларускай прамысловасці?**

— Красамоўна пра яе стан сведчаць наступныя лічбы: у ліпені бягучага года аб'ём рэалізацыі склаў 93 працэнты ад аб'ёму вытворчасці, 7 працэнтаў выробленай прадукцыі засталося ляжаць на складах. А за сем месяцаў сярэдні паказчык роўны 91 працэнту. Калі скласці ўсю нерэалізаваную прадукцыю, то атрымаецца амаль месячная норма выпуску. Адсутнасць абаротных сродкаў у прадпрыемства можна патлумачыць толькі так: значная частка іх была ўкладзена ў прадукцыю, якая ляжыць зараз на складах. З другога боку, матэрыялаёмістасць валавога ўнутранага прадукту нашай рэспублікі значна вышэйшая, чым за мяжой. Таму калі адкрыць граніцы нашай рэспублікі, то прадпрыемствы і ў прамысловасці, і ў сельскай гаспадарцы канчаткова «лягуць на дно».

Сёння ў нас няма, напрыклад, збыту жывёльнага масла з-за вялікага яго кошту (сусветны кошт прыблізна 2 долары, у нас — 3 і больш), таму працуем выключна на ўнутраны рынак, а ўлічваючы невялікі памер заробку айчыннага спажыўца, — зноў жа натыкаемся на амаль невырашальную дылему.

**— Дык чым жа можна тлумачыць прырост вытворчасці, акрамя як адзінкавымі ўліваннямі?**

— Гэта можа быць прырост статыстычны на паперы. Чаму не — калі кіраўніком дзяржавы цвёрда сказана, што дырэктар канкрэтнага прадпрыемства адказвае за планавы прырост прамысловай вытворчасці? Тут адразу можа з'явіцца спакуса прыпісаць, каб заспакоіць і сябе, і вышэйшыя ўлады. Я не жадаю сцвярджаць, што ўсе займаюцца падманам, не, не ў гэтым справа. Адміністраванне здольна параджаць і не такія з'явы — успомніце недалёкае мінулае. І ўвогуле, размову трэба весці не столькі аб аб'ёмах вытворчасці, колькі аб аб'ёмах продажу, як ва ўсім цывілізаваным свеце.

**— Дык з чаго тады, на ваш погляд, павінна зыходзіць эканамічнае рэфарміраванне?**

— Раней Беларусь з'яўлялася зборачным цэхам усяго Савецкага Саюза, зараз мы такім цэхам і застаёмся, але без таннай сыравіны, матэрыялаў, якія раней прывозілі з той жа Расіі. Сёння мы ўсё атрымліваем па сусветных цэнах, а, як я даведаўся на сходзе працоўных Мінскага электрамеханічнага завода, у асобных выпадках нават значна вышэйшых. У такіх умовах, нават пры наяўнасці высокіх тэхналогій, беларуская прадукцыя будзе яўна неканкурэнтаздольнай на знешнім рынку. Рэспубліцы трэба знайсці сваю асабістую нішу ў сусветнай эканоміцы, звярнуцца да таго, што яна мае — да таго ж вырошчвання лёну і яго перапрацоўкі. Гэта наша традыцыйная прадукцыя, якая зараз у заняпадзе. Паколькі ў нас няма ніякай сыравіны, апрача калійнай солі, выйсце — у развіцці канкрэтных напрамкаў радыёэлектронікі, навукаёмістых, энергазберагальных галін. Турызм можа прынесці канкрэтны прыбытак, тут нават не спатрэбяцца беларускія грошы, калі стварыць добрыя ўмовы для замежных інвестараў. Яны б на нашых дарогах і гасцініц, і рэстаранаў набудавалі.

**— Але ж пакуль прыходзіцца канстатаваць яўную недастатковасць інвестыцый у эканоміку нашай рэспублікі?**

— Яны б пайшлі, калі ўсім тым, што я назваў вышэй, заняцца належным чынам, стварыць неабходныя ўмовы, у тым ліку падатковыя, каб зацікавіць тых людзей, якія могуць укладваць свае сродкі ў развіццё эканомікі. Ва ўмовах рынку заўсёды арыентуюцца на спажыўца, а не на чыноўніка, што дае план, абавязковы для выканання. На жаль, прыходзіцца канстатаваць факт амаль поўнай адсутнасці рэальнага рэфарміравання. А яно павінна зыходзіць са стварэння ідэалогіі нашага развіцця.

**— Ці не таму прызвана служыць абмяркоўваемая Праграма сацыяльна-эканамічнага развіцця на перыяд да 2000 года?**

— Па даручэнню Федэрацыі прафсаюзаў я непасрэдна ўдзельнічаў у распрацоўцы сацыяльнага блока Праграмы і магу адназначна сказаць, што тыя параметры, паказчыкі, набор мерапрыемстваў, якія там прадугледжаны, пры ўмове іх рэалізацыі здольны палепшыць дабрабыт працоўнага чалавека. Але ж яны ўяўляюць сабой сістэму, цэльны механізм. І вось менавіта як механізм праграма здаецца мне яўна недапрацаванай, таму што ў ёй прысутнічаюць унутраныя супярэчнасці, нестыкоўкі, яна недастаткова збалансаваная, асобныя яе элементы, такія, напрыклад, як рост грашовай масы (у два разы) і паказчык памяншэння інфляцыі — гэта два процілеглыя фактары. Нядаўна ў выступленні Прэзідэнта прагучалі словы аб тым, што, маўляў, спецыялісты падлічылі: калі грашовую масу накіраваць на будаўніцтва жылля, то гэта не дасць ніякай інфляцыі наогул. Такія разважанні недастаткова ўлічваюць нават рэаліі нашага мінулага — у перыяд індустрыялізацыі савецкая дзяржава павінна была выкінуць у абарот шмат грошай, якія не мелі таварнага напаўнення, бо трэба было будаваць. Тады нейкі час інфляцыя развівалася вельмі высокімі тэмпамі, менавіта за гэты час былі створаны асноўныя фонды, якія, пачаўшы потым працаваць, прывялі да стабілізацыі сітуацыі. Таму да павелічэння грашовай масы трэба адносіцца з вялікай асцярожнасцю.

**— Зараз чуецца мноства меркаванняў наконт адміністрацыйнага ціску на эканоміку...**

— Так, сёння ў значнай ступені адбываецца адкат назад. Аднак адміністрацыйна кіруемая эканоміка ў такой дзяржаве, якую ўяўляе сабой Рэспубліка Беларусь, функцыянаваць проста не можа. Такая сістэма магла добра існаваць ва ўмовах СССР з яго вялікім прыродным і тэхнічным патэнцыялам. У нашай жа дзяржаве павінна стварацца іншая, сапраўды дэмакратычная сістэма кіравання.

**— Якую пазіцыю зараз займаюць прафсаюзы па пытаннях несвоечасовай выплаты заробку?**

— Своечасовая выплата заробку — гэта наша прынцыповая пазіцыя. Што ты зарабіў — павінен атрымаць, інакш якім чынам можна існаваць чалавеку. Зараз Федэрацыя ставіць не столькі пытанне аб павелічэнні заробку, колькі аб яго своечасовай і поўнай выплаце. Заява аб неабходнасці павышэння памеру заробку — палка з двума канцамі. З аднаго боку, адбудзецца павелічэнне даходаў, з другога, улічваючы накоплены інфляцыйны патэнцыял, рэзка павялічацца цэны, у тым ліку на прадукты харчавання, асноўныя тарыфы. Пасля чаго адразу ў выглядзе аб'ектамі крытыкі стануць прафсаюзы — будуць казаць: навошта яны прапаноўвалі павялічыць заробак? Усім жа не раскажаш, што заработная плата займае толькі 6—8 працэнтаў у сабекошце прадукцыі. Нават двухразовае павелічэнне яе павінна азначаць толькі 6—8-працэнтны рост кошту тавараў. Што датычыцца выплаты па запазычанасці, тут можна сказаць наступнае: указам Прэзідэнта гэта мяркуецца зрабіць да 20 кастрычніка гэтага года.

**— Прабачце, але за кошт чаго?**

— За кошт павелічэння, па-першае, аб'ёмаў рэалізацыі, вяртанне дэбіторскай запазычанасці, па-другое, праз пашырэнне памераў натураплаты, па-трэцяе, зноў жа — дадатковыя крэдыты. Дарэчы, менавіта крэдыты дазволілі зараз ліквідаваць запазычанасць па заработнай плаце ў бюджэтнай сферы. Але ж крэдыты застаюцца крэдытамі, трэба думаць аб тым, як стварыць умовы, каб вытворчасць запрацавала, каб заработная плата стала рэальным вынікам эфектыўнага функцыянавання эканомікі. Вось у чым галоўная праблема.

**— Сярод названых вамі крыніц пагашэння запазычанасці адсутнічае яшчэ адна, мабыць, самая простая і разам з тым самая балючая, — звальненне.**

— Так, гэта, вядома, значная крыніца (калі напалову правесці скарачэнне персаналу, то адразу можна павялічыць памер заробку), але небяспечная, бо беспрацоўныя — калыска маргіналаў. Дзяржаве трэба перш за ўсё паклапаціцца аб стварэнні новых працоўных месцаў, арганізаваць як след малое прадпрымальніцтва, каб яно стала своеасаблівай губкай, якая паглынае людзей, што звольніліся са сферы вытворчасці. А зараз усё адбываецца якраз наадварот. Праяўленне крызісу і ў гэтым. Бо эканоміка — аснова функцыянавання грамадства як арганізма: калі эканоміка развіваецца дынамічна, у грамадстве ствараецца імунітэт супраць сацыяльных хвароб. Як толькі эканамічная арганізацыя дае збой, гэты імунітэт страчваецца.

Цяперашні крызісны момант характарызуецца дэградзіруючымі элементамі не толькі ў сацыяльна-эканамічнай, але і ў палітычнай сферах, таму што гэтыя сферы цесна ўзаемазвязаны.

**— Франц Пятровіч, атрымліваецца, што, жывучы ў цяперашнім, амаль не застаецца надзеі на нейкае будучае.**

— Ведаеце, грамадства — такая рэч, якая ніколі не загіне, яно будзе існаваць, і нават тады, калі колькасць супярэчнасцей, якія накопяцца, дасягне нейкай крытычнай масы, знойдзецца выйсце — катаклізмы, выбухі, перамога адной ідэалогіі над другой. Але хіба ж не больш прывабным, уяўляецца эвалюцыйны шлях».

Прафсаюзы, як абаронцы сацыяльна-эканамічных інтарэсаў працоўных, сваім асноўным правілам заўсёды лічаць забеспячэнне людзей трыма рэчамі — працай, зарплатай, дастойным і спакойным жыццём. Таму трэба працаваць, а не кідацца ў палітычныя амбіцыі. Вядома, лепш за ўсё, калі заклік прафесіянальных саюзаў да вырашэння процістаяння ўладаў у напрамку канструктыўнага дыялогу, пагаджальнасці, будзе пачуты. Неабходна ісці насустрач, такі шлях больш кароткі, чым той, калі адзін ад аднаго кідаюцца наўцёкі.

А калі ўсё ж будзе працягвацца разлад у грамадстве, Федэрацыя будзе проста вымушана калегіяльна вызначыць сваю пазіцыю.

**Гутарыў Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

**Наша газета ўжо неаднойчы расказвала пра работу першага ў рэспубліцы сумеснага беларуска-германскага сельскагаспадарчага прадпрыемства, што дзейнічае ў калгасе імя Суворава Пастаўскага раёна. У прыватнасці, нядаўна мы паведамлялі аб тым, што на 100-гектарным пшанічным полі, якое апрацоўвалася па нямецкай тэхналогіі і з дапамогай нямецкай сельскагаспадарчай тэхнікі, намалочана па 68 цэнтнераў збожжа — амаль утрая вышэйшы ўраджай, чым у цэлым па гаспадарцы. Нядаўна прэзідэнт вядомай нямецкай фірмы «Гебрудэр-Штоц» Петэр Штоц разам з яшчэ трыма прадстаўнікамі нямецкіх дзелавых колаў зноў наведаў гэтую гаспадарку. А напярэдадні гасцей прыняў міністр знешнеэканамічных сувязей Міхаіл Марыніч, на якой прысутнічаў і старшыня калгаса імя Суворава Алег ВАЛАДЗЬКО.**

Нямецкія бізнесмены, па словах Петэра Штоца, не хаваюць сваіх намераў, калі прапануюць інвестыцыі ў сельскагаспадарчую вытворчасць. Яны разлічваюць мець адпаведны з дагаворам прыбытак. Пытанне, што называецца, рубам: бізнес — ёсць бізнес. Тым больш, калі ад падобнага супрацоўніцтва ў выйгрышы абодва бакі. Нямецкая тэхніка і тэхналогія ўжо неаднойчы выручала «сувораўцаў»: на кукурузных палетках, якія займаюць у гаспадарцы амаль паўтысячы гектараў, дзякуючы нямецкай тэхналогіі ўдалося ўзняць планку ўраджайнасці да 450 цэнтнераў зялёнай масы з гектара — удвая вышэй, чым у іншых гаспадарках раёна. Менавіта нямецкая тэхніка забяспечыла эканомію паліва недзе ў межах 370 мільёнаў рублёў за год. А якія каласальныя магчымасці для павышэння прадукцыйнасці працы! Як нядаўна паведаміла сваім чытачам мясцовая раённая газета «Пастаўскі край», нямецкі трактар «Фэнт», які А. Валадзько часова перадаў аграфірме «Зара», узорваў за дзень па 22 гектары, у той час як амаль што роўны з ім па магутнасці «Т-150» ледзь адольваў 5—7 гектараў. Мясцовыя кіраўнікі потым угаворвалі Валадзько: маўляў, пакінь свайго «немца» нам, мы ўзамен аддадзім тры новенькія «Т-150».

Аднак на тварах удзельнікаў гутаркі не бачна было асаблівага задавальнення, больш было засяроджанасці, нават трывогі. Першым загаварыў пра свае клопаты, турботы Петэр Штоц:

— З вашым Алегам Валадзько мы пасябравалі настолькі моцна, што я яму давяраю як сабе. Але ж толькі на асабістым даверы бізнес далёка не прасунеш. Для расшырэння эксперымента з нямецкай тэхналогіяй у рамках раёна ці некалькіх раёнаў спатрэбяцца ўрадавыя гарантыі. Мы павінны быць упэўнены ў тым, што ўкладзеныя сродкі не толькі акупяцца, але і дадуць адпаведны прыбытак. А што на справе? Уклалі немалыя сродкі, паставілі тэхніку, інвентар, насенне, дабіліся нядрэнных вынікаў. Словам, эксперымент удаўся, затраты акупляюцца за год, ёсць прыбытак. Згодна з дагаворам, мы можам прэтэндаваць на частку яго. Але як забраць зароблenae? Нам патрэбна цвёрдая валюта. Але ў гаспадарцы яе не хапае. Тады можам забраць сваю частку збожжам. Дзяржава, наколькі мне вядома, плаціць гаспадаркам за тону жыта 130 долараў, мы ж гатовы аплачваць яго па сусветных цэнах — 230 долараў за тону; за пшаніцу, адпаведна, тут плацяць за тону па 200 долараў, мы прапануем — па 300. Прамая выгада: гаспадарка атрымлівае сваю частку валюты, дзяржава — падаткі. Здаецца, усе задаволеныя? Але на справе калгасу забаронена пастаўляць збожжа за мяжу. Чаму? З даведзеным планам па продажы збожжа дзяржаве гаспадарка разлічылася ў ліку першых у раёне. Навошта тады такія перашкоды? А ў дагаворах аб сумесным прадпрыемстве запісана, што мы можам забіраць сваю долю грашыма або прадукцыяй.

Яшчэ больш горычы, трывогі адчувалася ў словах кіраўніка гаспадаркі.

— Мне сорамна глядзець у вочы сваім нямецкім партнёрам, — з сумам зазначае Алег Адольфавіч. — Людзі стараюцца, душой хвараюць за поспех агульнай справы, а мы нават разлічыцца з імі не можам. «Зайцы» іх не цікавяць, патрэбна цвёрдая валюта: дойчмаркі ці долары. Будзем неяк выкручвацца, але даўгі вернем. Толькі навошта псаваць нервы сабе і партнёрам? Такімі адносінамі да справы можам наогул адбіць усялякую ахвоту да супрацоўніцтва.

Перад вачыма, быццам увачавідкі, паўстала тое пшанічнае поле, што бачылі мы тады ў калгасе імя Суворава. Тугія, нібы адлітыя з медзі, каласы абяцалі выдатныя намалоты. І спадзяванні спраўдзіліся: па 68 цэнтнераў адборнай пшаніцы з гектара атрымалі з гэтага палетка! Бачылі ў рабоце і нямецкую тэхніку: збожжаўборачныя камбайны ўдвая больш высокапрадукцыйныя, чым вядомыя «Доны», трактары «Мерседэсы», «Фэнты» таксама ў некалькі разоў пераўзыходзяць па прадукцыйнасці нашы «Беларусь» і «Т-150». І гэта пры вялізнай эканоміі паліва. Чаму ж тады іх не бачна на нашых палетках? Дарэчы, менавіта гэта меў на ўвазе адзін з нямецкіх бізнесменаў, калі спытаў: чаму на тутэйшых дарогах так шмат замежных марак машын і зусім адсутнічае замежная тэхніка на палетках? Праўда, міністр знешнеэканамічных сувязей Міхаіл Марыніч так пракаменціраваў гэта: маўляў, паколькі аўтамабілі прыватныя, а сваіх заводаў па выпуску легкавікоў Беларусь не мае, то і мытныя пошліны на ўвозімыя аўто адносна невялікія. Іншая рэч, калі справа датычыцца сельскагаспадарчай тэхнікі. У нас некалькі заводаў гэтага профілю, а таму дзяржава высокімі мытнымі пошлінамі абараняе інтарэсы сваіх вытворцаў.

Што ж, зразумела, але не вельмі пераканаўча. Чаму мы абавязкова павінны арыентавацца на трактар уласнай вытворчасці, калі замежны больш прадукцыйны і эканомны? У рэшце рэшт гэта дадатковым грузам ляжа на сабекошт сельгаспрадукцыі, а ў канчатковым выніку — і на цану, якая ўжо дасягнула сусветнага ўзроўню. Тое ж самае — і адносна камбайнаў. Навошта купляць расійскі «Дон», калі нямецкі значна пераўзыходзіць і па магутнасці, і па эканомнасці, і па надзейнасці? Можа таму, што на «Гомсельмашы» распрацоўваюцца ўзоры айчыннага збожжаўборачнага камбайна? Але калі гэта яшчэ будзе і ці спраўдзяцца надзеі вучоных і вытворцаў? Камбайны трэба ўжо сёння, бо наяўны парк рэспублікі ўжо амаль поўнасцю адпрацаваў свой мотарэсурс. Дык што перашкаджае пайсці і на кааперацыю з немцамі? З такімі адносінамі да справы рынак нас не прыме. У нас найбольш неэканомныя маторы. У той час як у ціскох энергетычнага крызісу ўвесь свет біўся над стварэннем энергаёмістых рухавікоў, мы, разбэшчаныя таннымі энергетычнымі рэсурсамі, праспалі гэты час. А даганяць — справа няўдзячная. Абыходзіцца ж тая Галандыя без уласных трактароў ці камбайнаў.

Такія вось невясёлыя думкі прыйшлі падчас той сустрэчы ў Міністэрстве знешніх эканамічных сувязей. Праўда, Міхаіл Марыніч запэўніў нямецкіх гасцей у вартасці ўкладання сродкаў у нашу сельскагаспадарчую вытворчасць, абяцаў усяляк падтрымліваць, у тым ліку і праз урад, той эксперымент, што праводзіцца цяпер у калгасе імя Суворава. Нагадаў таксама і пра прыняты закон, які датычыцца абароны інвестыцый.

Ў цэлым жа ўражанне ад сустрэчы нeблагое. Пачатак зроблены. Было б добра, калі б замежныя інвестыцыі патокам хлынулі і ў іншыя гаспадаркі рэспублікі. Ад гэтага выйгралі б усе.

**Уладзімір ГОЙТАН.**

*ПРАБЛЕМЫ*

# КАГО І ШТО БАРОНІМ?

## (Нататкі з сустрэчы ў Мінзнешэканомсувязей)




**Нягледзячы на зніжэнне жыццёвага ўзроўню нашага народа — п'е ён усё больш і больш. Не ведаю, як наконт гэтага выказваецца афіцыйная статыстыка, але гэта сапраўды так. Ды і ўвогуле, афіцыйная статыстыка ўжо не можа даць аб'ектыўнай характарыстыкі сітуацыі, бо дзяржавай за апошнія гады страчана адна з найгалоўнейшых манаполій, колішніх манаполій, — на выраб і продаж гарэлкі. Таму любыя статыстычныя даныя не будуць адпавядаць сапраўднасці. Працэс распаўсюджвання гарэлкі па гарадах і вёсках краіны выбіўся з-пад кантролю, стаў стыхійным, падобным нават на эпідэмію.**

**НАРОД П'Е БОЛЬШ.** Магчыма, у сталіцы гэта на бытавым узроўні заўважаецца не так, але жыццё правінцыі літаральна «набракае» ўсё больш і больш.

Дык вось, бытавы ўзровень. Не будзем браць гады барацьбы з п'янствам — кампанію бясслаўную і бездапаможную — успомнім часы пасля яе. Звычайны мужчына, прыхільнік моцных напояў, мог сабе «дазволіць» пасля працы, мог заседзецца дзе-небудзь ля рэчкі і дацямна. Мог, калі з'яўлялася рызыка і дазвалялі грошы, наведаць адну з тых установаў, якія ў грамадскім харчаванні называюць то «рэстаран», то «кафэ», то «чарачная», а ў народзе найчасцей «забягалаўкай». Але пасля адзінаццаці-дванаццаці, калі гэтыя ўстановы зачыняліся, ён мусіў выпраўляцца дадому. Магчымымі былі і іншыя варыянты, магчымай была сустрэча з роднай міліцыяй, але, як правіла, было падарожжа дадому.

Сёння сітуацыя зусім іншая. Сёння чалавек, прыхільны да моцнага напою і не надта пераборлівы ў напоях — а ўсе гады савецкага жыцця менавіта да гэтага чалавека і прывучалі, — мае магчымасць набыць так званую «гарэлку» ў любы час дня і ночы. У гарадках, мястэчках, ды што там — у вёсках кругласутачна функцыянуюць так званыя «кропкі». Там бутэльку прададуць нават танней, чым у краме. І ўсё як належыць — закаркавана, пры этыкетцы.

У гарадках кожная такая «кропка» мае сваю «зону ўплыву». І жыхары пэўнай тэрыторыі звяртаюцца па свайму, добра вядомаму сярод аматараў выпіць адрасу. Яны ведаюць прадаўца, прадаўцы ведаюць сваіх пакупнікоў. У кожнага з такіх прадаўцоў існуюць «чорныя спісы», куды заносяцца даўжнікі. Адна з адметнасцей дзейнасці «кропак», што там ахвотна даюць напавер. Нікуды ты не дзенешся, калі-небудзь ды вернеш пазыку і яшчэ купіш. Звяртаюцца ў «кропкі» не толькі аматары. У выпадку хаўтур, іншых жыццёвых здарэнняў, дзе патрабуецца па нашых звычаях гарэлка, ідуць у «кропкі» бяднейшыя. Тут танней, чым у краме. Ну а якасць напою, які ставіцца на стол, — гэта ўжо іншая справа.

Зацікавіўшыся гэтым пытаннем, па міліцэйскіх пратаколах, у размовах з работнікамі праваахоўных органаў я спрабаваў высветліць нейкі сацыяльны партрэт сённяшняга такога шматлікага падпольнага прадаўца «гарэлкі». Адразу трэба сказаць, што яны зусім не падпольныя. Сам род дзейнасці вымушае гэтых прадаўцоў неяк афішыраваць яе, шукаць кліентуру. А вось змагацца з імі вельмі цяжка. Каб скласці пратакол, неабходна найперш даказаць факт незаконнага продажу, знайсці сведак. Ды і не ўсе пратаколы, якія потым трапляюць у падатковую інспекцыю, цягнуць за сабой пакаранне, штрафы. Шмат тут недагаворанасцей, цьмяных мясцін, пралазаў, праз якія выслізгваюць найбольш вопытныя прадаўцы. І ўсё-такі мае спадзяванні, што продажам «гарэлкі» заняліся ў апошнія гады найперш тыя грамадзяне, якія страцілі працу, не маюць сродкаў да існавання, бабулі-пенсіянеркі, каб хоць крыху дабавіць да сваіх невялічкіх пенсій, не апраўдаліся. Ёсць і такія выключэнні, але, як правіла, продажам «гарэлкі» займаюцца тыя, хто ўжо мае і імкнецца атрымаць яшчэ звышпрыбытак. Уладальнік «кропкі», які адчыняе дзверы сярод начы, каб прадаць загуляўшаму дзядзьку бутэльку сумніўнай гарэлкі, днём вельмі часта едзе па сваіх справах на шыкоўнай іншамарцы. Па падліках работнікаў міліцыі, такі занятак дае сто працэнтаў прыбытку на кожны ўкладзены рубель. І тут ужо, як кажуць, сумленне хаваецца ў далёкі куток. Як правіла, самі прадаўцы сваёй прадукцыі не ўжываюць — яны цудоўна ведаюць, што гэта такое. Яны, кожны дзень прадаючы некаму гарэлку, а то і даючы яе «на вэксаль», вельмі выразна бачаць, як пачынае співацца, дэградзіраваць той ці іншы чалавек. Але не спыняць, не адмовяць — такі іх бізнес. На слязах сем'яў, на чалавечым падзенні.

Разбаўлены спірт невядомага паходжання і якасці ў прыстойных бутэльках «гарэлкі» новага часу літаральна захліснуў краіну. Як гэта ні дзіўна, але перад ім адступае нават звычная і традыцыйная для беларуса самагонка. Выраблядь яе становіцца проста нявыгадна. Выраблядецца яна ў асноўным цяпер для хатняга ўжытку, але толькі не на продаж.

Ды як бы ні стараўся прадавец-адзіночка, няхай ён нават мае свой апарацік для закаркоўвання бутэлек, свой стос этыкетак — яго дзейнасць не ідзе ні ў якое параўнанне з дзейнасцю фірмаў, арганізацый, прадпрыемстваў, што атрымалі ад дзяржавы ліцэнзіі на продаж спіртных напояў і таксама ўключыліся ў спойванне народа разбаўленым спіртам пад выглядам гарэлкі. У адным з райаддзелаў міліцыі на захадзе Віцебшчыны малады супрацоўнік аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю паказаў мне ў акно цыстэрну для перавозкі малака.

— Што, думаеце, там малако?

— А што інакш?

— Спірт. Адна з нашых фірмаў перавозіла пад выглядам малака. Але, па ўсім відаць, нічога не атрымаецца. Абыдуцца штрафам.

Уявім сабе такую сітуацыю: кіраўнік прадпрыемства, які адкрыў пры прадпрыемстве краму і атрымаў для яе ліцэнзію на продаж спіртных напояў, завёз партыю «гарэлкі», не заплаціўшы акцызнага падатку.

Ды вернемся да таго маладога супрацоўніка аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю. Не называю яго, каб не нашкодзіць. Бо, як потым даведаўся, сапраўды, малакавоз паехаў па свайму прызначэнню. Знайшліся ўсе неабходныя дакументы. А ў час той нашай размовы міліцыянер загаварыў з яўнай шчырасцю: «Чаму не прыкрыць увесь гэты б... з гарэлкай? Вялікія тут, брат, грошы круцяцца. Вялікія... Раней як вызначалі эліту раёна, напрыклад? Блізкасць да начальства, уваходжасць да яго. А цяпер — наяўнасць ліцэнзіі на гандаль гарэлкай. На гэтым растуць і гмахі».

Прыгледзьцеся, дзяржава сёння паводзіць сябе з гарэлкай неяк нават не індэферэнтна, а цнатліва. Нібыта праблем і не існуе. Гарэлка сёння ўваходзіць у разрад (параўнальна) самых танных тавараў. Нават піва робіцца пасынкам на карысць усё той жа гарэлкі. Ну хто б у часы развітога сацыялізму мог падумаць, што чатыры бутэлькі піва па цане будуць эквівалентныя бутэльцы саракаградуснага напою?

Такая высокая «гарэлачная» хваля не можа не падточваць берагоў грамадства, не спрыяць узмацненню ў ім тэндэнцый да люмпенізацыі, сацыяльна-палітычнай абыякавасці і аслабленасці. Пастаянны наведвальнік «кропкі» ці сумніўнай крамы з ядавітымі напоямі наўрад ці здольны будзе адгукнуцца на цвярозы і памяркоўны заклік, прапанову, выказаць сваю ўзважаную думку.

**Алесь КАСЦЕНЬ.**

*АКТУАЛЬНА*

# У сістэме збору падаткаў — шмат недахопаў і непаладкаў

**ПАДАТКОВАЯ СІСТЭМА** на Беларусі сёння нагадвае агромністы лабірынт, у якім апынуліся мільёны грамадзян. Прычым, вельмі часта ў гэтым лабірынце апошнім часам бездапаможна блукаюць не толькі падаткаплацельшчыкі, але і самі зборшчыкі падаткаў. Аб гэтым сведчаць вынікі нядаўняй пракурорскай праверкі выканання падатковага заканадаўства ў нашай краіне. А на мінулым тыдні гэтай праблеме было прысвечана пасяджэнне калегіі рэспубліканскай пракуратуры, на якім сумесна з прадстаўнікамі Міністэрства фінансаў, Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыі краіны пракуроры спрабавалі знайсці выйсце са звышскладанага падатковага лабірынта.

Прааналізаваць сітуацыю ў падатковай сістэме, зыходзячы з вынікаў пракурорскіх праверак, карэспандэнт «Звязды» папрасіў старшага пракурора аддзела па нагляду за выкананнем законаў у сферы эканомікі Івана Сыраквашку.

**— Іван Уладзіміравіч, тое, што падатковая сістэма нашай краіны далёкая ад дасканаласці — агульнавядома. Праўда, на гэта найчасцей скардзяцца буйныя падаткаплацельшчыкі: бізнесмены, кіраўнікі дзяржпрадпрыемстваў. А з пунту гледжання пракурораў, якія хібы падатковай сістэмы патрабуюць неадкладнага выпраўлення?**

— Пракурорскі нагляд за выкананнем падатковага заканадаўства сведчыць, што самы істотны недахоп падатковай сістэмы — менавіта заканадаўча-нарматыўная база. Яна вельмі груваcткая — на сённяшні дзень на Беларусі існуе 11 відаў агульнадзяржаўных падаткаў і больш за 30 відаў розных збораў (уключаючы і мясцовыя), якія папаўняюць казну альбо выкарыстоўваюцца на патрэбы ведамстваў і арганізацый. Да таго ж гэтая сістэма вельмі заблытаная. Часам асобныя артыкулы, палажэнні падатковых дакументаў супярэчаць адно аднаму. Пасля ўнясення змяненняў у дзеючае заканадаўства асобныя тлумачэнні, указанні, інструкцыі падатковай інспекцыі маюць адваротную сілу, што наогул супярэчыць агульнапрынятым нормам. Адметна, што падобная практыка падатковай нарматворчасці фармальна стасуецца з Законам «Аб падатках і зборах, якія спаганяюцца ў бюджэт Рэспублікі Беларусь» і Грамадзянскім кодэксам. Прынамсі, у гэтых дакументах не рэгламентуецца час дзеяння законаў аб падатках. А таму суб'ектам гаспадарання і фізічным асобам даводзіцца выконваць нават такія нелагічныя патрабаванні падатковай інспекцыі. Так будзе да таго часу, пакуль парламентарыі не замацуюць у падатковым заканадаўстве норму, якая б дакладна сведчыла, што артыкулы гэтых актаў не маюць зваротнай сілы, ці маюць у канкрэтных выпадках. Інакш будзе спрацоўваць старадаўняе правіла: што не забаронена законам, тое дазволена.

У сувязі з гэтым хацелася б нагадаць і аб нарматыўных актах выканаўчай улады, якімі рэгулююцца падатковыя адносіны. Неабходнасць гэтых дакументаў відавочная, але дрэнна, што яны доўгі час не ўключаюцца ў падатковыя законы, альбо наогул не прымаюцца заканадаўцамі. Так, напрыклад, атрымалася з увядзеннем падатку на дабаўленую вартасць і акцызаў на імпартуемыя тавары і паслугі, з шэрагам пастаноў аб вызваленні ці адтэрміноўцы выплаты асобных падаткаў.

Словам, як бачна, да падрыхтоўкі і прыняцця падатковых дакументаў павінны больш уважліва падыходзіць і заканадаўчыя, і выканаўчыя структуры ўлады. Тады і ў падаткаплацельшчыкаў, і ў падатковых інспектараў, пэўна, будзе менш узаемных прэтэнзій, а бюджэт дзяржавы будзе папаўняцца значна лепш, чым зараз.

**— Цяжка раздзяліць ваш аптымізм на фоне цяперашніх эканамічных рэалій.**

— Сапраўды, аб'ектыўна ацэньваючы сітуацыю, варта адзначыць, што падатковым інспектарам даводзіцца працаваць у складаных умовах. Хоць колькасць падаткаплацельшчыкаў апошнім часам штогод павялічваецца на 15—20 працэнтаў і перавысіла ўжо 2,5 мільёна, недахват свабодных фінансавых сродкаў штурхае суб'ектаў гаспадарання на шлях ухілення ад выплаты падаткаў. На працягу 1995 года і за першую палову гэтага года падчас праверак падатковымі інспекцыямі было дадаткова налічана ў бюджэт 4434,8 мільярда рублёў, што складае 9,3 працэнта ад сумы плацяжоў, якія былі ўнесены падаткаплацельшчыкамі добраахвотна. Для параўнання: у 1992 — 1994 гадах утойванне прыбыткаў ад падаткаабкладання складала не больш як два працэнты. Недабор сродкаў у бюджэт зараз складае 2,3 трыльёна рублёў і сведчыць аб тым, што на Беларусі няма належнай падатковай дысцыпліны.

**— Так, падатковым інспектарам зараз не пазайздросціш, бо ім, звычайным выканаўцам законаў, даводзіцца прымаць на сябе хвалі абурэння падаткаплацельшчыкаў з-за празмерныя апетыты дзяржавы. З іншага боку, і кіраўніцтва дзяржавы, пэўна, патрабуе больш актыўнага папаўнення бюджэту. Аднак дзеля справядлівасці варта адзначыць, што і самі зборшчыкі падаткаў не заўсёды прытрымліваюцца літары Закона. З якімі характэрнымі парушэннямі законаў падатковымі інспектарамі сутыкнуліся пракурорскія работнікі падчас згаданай праверкі?**

— На фоне замаруджвання тэмпаў росту прыбыткаў і цяжкага падатковага прэса ўсё больш распаўсюджанымі становяцца факты парушэння заканадаўства не толькі падаткаплацельшчыкамі, але і падатковымі інспекцыямі, службамі падатковых расследаванняў. Перш за ўсё з боку інспекцый не ў поўным аб'ёме прымяняюцца да парушальнікаў прадугледжаныя законам санкцыі. Асаблівую трывогу выклікаюць шматлікія выпадкі неабгрунтаванага вызвалення парушальнікаў падатковага заканадаўства ад адміністрацыйнай адказнасці. А тым, каго прыцягваюць да адказнасці, напрыклад, за парушэнне правілаў ажыццяўлення прадпрымальніцкай дзейнасці, утойванне прыбытку, падатковыя інспектары не заўсёды даюць магчымасць азнаёміцца са сваімі правамі і абавязкамі. Парушаючы патрабаванні Кодэкса аб адміністрацыйных парушэннях, падатковыя інспектары ў сваіх пастановах не ўказваюць тэрмін і парадак абскарджання дакумента.

Хранічнай стала практыка вызвалення парушальнікаў ад адказнасці з-за малазначнасці нанесенага дзяржаве ўрону. Гэта прадугледжана Кодэксам аб адміністрацыйных правапарушэннях. Але, паколькі крытэрыяў малазначнасці ў кодэксе не прыводзіцца, гэтым карыстаюцца некаторыя нядобрасумленныя падатковыя інспектары для сваіх маніпуляцый.

Амаль паўсюдна намі выяўлены факты няправільнай кваліфікацыі дзеянняў правапарушальнікаў, неабгрунтаванае састаўленне пратаколаў.

Па-ранейшаму распаўсюджаны выпадкі выбарнасці пры прымяненні адміністрацыйных штрафаў да кіраўнікоў прадпрыемстваў і асобных грамадзян за парушэнне падатковага заканадаўства: адны адказваюць перад законам па ўсёй яго строгасці, іншым, па выбару падатковых інспекцый, патураюць. Напрыклад, падатковымі інспекцыямі па Кобрыну і раёну ў мінулым годзе вызвалена ад штрафаў 227 чалавек, па Рагачоўскаму раёну і гораду спынены адміністрацыйныя справы па 332 пратаколах. У падатковай інспекцыі па Зэльвенскаму раёну ад адміністрацыйнай адказнасці вызвалена 39 працэнтаў парушальнікаў заканадаўства. Прычым у матэрыялах адпаведных спраў, як правіла, адсутнічаюць дакументы, якія даюць падставы для вызвалення парушальнікаў ад адказнасці.

Не лепш ідуць справы, як сведчаць вынікі нашай праверкі, і ў службах падатковых расследаванняў. Напрыклад, у Віцебскай вобласці за мінулы год і першую чвэрць сёлетняга года адменена 14 пастаноў работнікаў службаў падатковых расследаванняў аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальных спраў, у Магілёўскай вобласці аналагічных выпадкаў — 19.

Такім чынам, як бачна, заканадаўства аб падатках сёння парушаюць і падаткаплацельшчыкі, і тыя, хто павінен папаўняць дзяржаўную скарбонку. Для выпраўлення існуючых недахопаў у падатковых службах пракурорамі накіраваны прадстаўленні кіраўнікам гэтых падраздзяленняў.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

## ЗЛАЧЫННАСЦЬ ЗНІЖАЕЦЦА, АЛЕ СУПАКОЙВАЦЦА РАНА

За 8 месяцаў 1996 года ў рэспубліцы зарэгістравана 82,8 тысячы злачынстваў, што на 5,1 тысячы ці 5,8 працэнта менш, чым за аналагічны перыяд мінулага года. Гэтыя даныя абнародаваны на праведзеным у Мінску семінары Савета Еўропы па пытаннях арганізаванай злачыннасці.

На семінары адзначалася, што істотнай асаблівасцю цяперашняй крыміНагеннай сітуацыі ў краіне з'яўляецца змяншэнне на 2,5 працэнта колькасці цяжкіх злачынстваў, зарэгістравана зніжэнне наўмысных цяжкіх цялесных пашкоджанняў, згвалтаванняў, грабяжоў, крадзяжоў і вымаганняў маёмасці.

Да пазітыўных тэндэнцый можна аднесці павелічэнне на 2,6 тысячы расследаваных злачынстваў. Пры гэтым раскрыццё цяжкіх злачынстваў павялічылася з 58,7 да 60,2 працэнта. За 8 месяцаў бягучага года ў сферы эканомікі выяўлена 15,9 тысячы злачынстваў, што на 1,4 тысячы, ці на 9,5 працэнта больш, чым за аналагічны перыяд мінулага года. Заведзена 12,6 тысячы крымінальных спраў. Устаноўлена 11,7 тысячы грамадзян, якія ўчынілі эканамічныя злачынствы. На 11,8 працэнта больш заведзена спраў па крадзяжах, а ў буйных і асабліва буйных памерах — на 34,9 працэнта. З 473, да 531 ці на 12,3 працэнта, павялічылася колькасць устаноўленых фактаў хабарніцтва.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ, БЕЛТА.**

## АХВЯРАМІ ЎСЁ ЧАСЦЕЙ СТАНОВЯЦЦА ПЕНСІЯНЕРЫ

У сераду ў Жлобінскі РАУС з прыёмнага пакоя жлобінскага траўматалагічнага аддзялення паступіла паведамленне, што да іх па медыцынскую дапамогу з траўмай галавы звярнуўся пенсіянер, жыхар вёскі Чырвоны Бераг.

Калі напярэдадні ўначы пацярпеўшы выходзіў з дому, на яго напалі двое невядомых у масках. Пад пагрозай нажа старога чалавека збілі і зацягнулі ў дом, дзе і звязалі разам з жонкай. Рабаўнікі забралі 200 долараў ЗША, 160 тысяч расійскіх рублёў і адзін мільён «зайчыкаў».

10 верасня падобнае злачынства адбылося і ў вёсцы Гуньбаўшчына Валожынскага раёна. На гэты раз ахвярай злачынцаў стала 80-гадовая бабуля.

Двое невядомых выставілі аконную раму і праніклі ў дом. Сына, які паспрабаваў стаць на абарону сваёй састарэлай маці, рабаўнікі жорстка збілі. А саму жанчыну, каб не было лішняга клопату, звязалі. Злачынцы забралі ўсю тэлерадыёапаратуру, 200 тысяч рублёў і ўцяклі. За гэта злачынства затрыманы адзін мясцовы жыхар.

**Сяргей ПРОТАС, Пётр РАБКАВЕЦ.**

# БУДЗЕ І НА БЕЛАРУСКАЙ ВУЛІЦЫ СВЯТА!

***З народным паэтам Беларусі Нілам Гілевічам гутарыць журналістка Таццяна Антонава***



**-50 ГАДОЎ ТАМУ Вы ўпершыню выступілі з вершамі ў друку. Дарэчы, у досыць раннім узросце. Сёння ў Вас звыш сямі дзесяткаў кніг паэзіі, публіцыстыкі, навуковых даследаванняў, мастацкіх перакладаў. Ёсць і проза, і п'есы. Вярніцеся на 50 гадоў назад. Якім Вы тады былі? Пра што марылі, якой уяўлялі сваю будучыню?**

— Якім я сябе з таго 1946-га помню?.. Не па гадах рослы вясковы дзяцюк. Камсамолец — і не толькі фармальна, а і з высокім пачуццём абавязку. Кніжнік, бязмежна ўлюбёны ў паэзію, у музыку, у песні. У падсвядомасці, думаю, жыло ўжо і тады, што складанне вершаў — не часовае захапленне і тым больш не забава, што будучыня мая прадвызначана. Зусім пэўна гэта ўсвядомілася мною праз год, калі ў ліпені 1947-га я, аўтар шасці апублікаваных вершаў, быў запрошаны ў Мінск на Першую рэспубліканскую нараду маладых пісьменнікаў. Не мог жа я не разумець, што калі запрасілі на такую нараду — значыць там, у Мінску, глядзяць на мае паэтычныя пачынанні сур'ёзна, значыць — ускладаюць надзеі. На нарадзе гэтым усведамленнем я пранікся яшчэ больш, калі ўбачыў, што яе ўдзельнікі — добра вядомыя мне па друку Іван Шамякін, Андрэй Макаёнак, Мікола Аўрамчык, А. Бурдзель (Русецкі), Алена Васілевіч... Я сярод іх, нядаўніх франтавікоў, быў самы малады і — адзіны з пакалення падлеткаў вайны (імена падлеткаў, а не дзяцей вайны, тут ёсць істотная розніца).

Што да «ранняга ўзросту» — дык у паэзіі, здаецца, гэта здзіўляць не павінна. Не будзем згадваць хрэстаматыйна вядомае — пра самых вялікіх. Паглядзіце бібліяграфію твораў Ясеніна, Твардоўскага, Ісакоўскага, Куляшова... Справа ў тым, што я ўжо лічыў сябе ў той час дарослым, працаваў — і на касьбе, і на малацьбе, і на вывазцы лесу — разам і на роўных са сталымі мужыкамі. У маім другім апублікаваным вершы «Выйду» ёсць такія радкі: «Хороша і чыста Паганю пракос. А навокал свішчуць Ды дзесяткі кос. А навокал льецца Ды мядовы пах. А трава кладзецца! А шырэй размах!». Гэта не прыдуманае, гэта — сваё, асабіста перажытае чалавекам, які ўступае ў дарослае працоўнае жыццё.

**— Што адбылося з Вамі як з чалавекам за гэтыя 50 гадоў?**

— Галоўнае ў маёй самаацэнцы пройдзенага шляху — тое, што гэты шлях быў суцэльным ланцугом вялікіх і малых расчараванняў, незваротных страт, непапраўных памылковых крокаў...: «Я столькі памылак зрабіў у жыцці, А гэта ж грахі перад Богам...» — сказалася вершам яшчэ гадоў дваццаць назад. Сумна і горка ўсведамляць, колькі патрачана сіл і часу на тое, што не было маім прызваннем, і колькі не зроблена і ўжо не будзе зроблена з таго, што мусіў зрабіць менавіта я. Скажаце, пры такім наробку — 75 кніг — грэшна крыўдзіцца? Паглядзелі б, колькі накідаў, задум і нават пачатых вершаў, паэм, апавяданняў, п'ес у маіх даўно пажоўклых паперах!.. Часам перабіраю іх, перачытваю і кожны раз успамінаю страшныя словы Кузьмы Чорнага: «Божа, напішы за мяне мае раманы...»

**— Якія для Вас існуюць вяршыні ў мастацтве?**

— Абмяжуюся толькі сферай музыкі, якая хвалюе і ўзрушае мяне так, як ніякі іншы від мастацтва. Вяршыні — сімфоніі і санаты Бетховена, творы Чайкоўскага, царкоўная арганная музыка Баха, сімфоніі Шастаковіча. А яшчэ вельмі люблю музыку да драмы «Пер Гюнт» Грыга, «Венгерскія танцы» Брамса, «Венгерскую рапсодыю» Ліста, «Аскольдаву магілу» Вярстоўскага, «Мяцеліцу» Свірыдава, славуты «Паланез» Агінскага, лірычную мелодыю Туранкова, гімнічную «Малітву» Равенскага... А перад усім і над усім — народны нацыянальны мелас. І не толькі беларускі. Народную музыку — самых розных краін свету — гатоў слухаць гадзінамі і кожны дзень.

**— Якая Ваша жыццёвая філасофія, маральныя арыенціры?**

— Я вырас у вёсцы, сярод людзей, жыццёвай філасофіяй і маральным дагматам якіх было — жыць і працаваць сумленна, хлеб зарабляць толькі ўласным мазалём, не гнацца за багаццем, не зайздросціць нечай раскошы, шанаваць мову, звычаі, духоўныя скарбы і гістарычную памяць народа, паважаць людзей розных моў і нацый... Прынятае яшчэ з дзяцінства да душы і сэрца, усё гэта стала маім маральным перакананнем, кіравацца якім я стараўся ўсё жыццё. Галоўнае для мяне было — па магчымасці дасканала рабіць тое, да чаго прызваны, верачы, што плён тваёй працы патрэбен людзям і дойдзе да людзей. Таму мала цікавіўся: а колькі за працу заплацяць? Аднойчы зрабіў для сябе адкрыццё: з выплатай ганарару кнігу выдаць цяжка, асабліва навуковую, а калі без ганарару, «за так», — нашмат лягчэй. У выніку — трынаццаць кніг выдаў «за так» (апошняя з іх — «Талісман»). Ганарар яшчэ за дзве кнігі цалкам перадаў у дабрачынны фонд. Хаця багатым ніколі не быў, лішніх грошай не меў.

**— Вы не стаміліся ўвесь час змагацца, процістаяць?**

— Стаміўся. Страшэнна. Як той стары селянін у апавяданні Змітрака Бядулі «Умарыўся». Дарэчы, недаацэнены ў нас празаік і паэт. Пачынаем раскідвацца нават такімі кавалкамі. Багатыя сталі! А можа таму, што дагэтуль не паразумнелі?

Можа каму-небудзь здасца дзіўным, але ўвогуле мне не падабаецца ні змагацца, ні процістаяць. У адрозненне ад прыродных «буравеснікаў» — ніякай радасці ад барацьбы я не адчуваю. Мне куды лепей было б жыць без змагання. Па характару я самотнік і сузіральнік, да прагматыкаў не належу, тым больш — да гэтак званых «энергічных людзей», якія мне па духу зусім чужыя. Свет жа ўвогуле прагматычны, нават жорсткі, часта — несправядлівы, у ім шмат таго, што надта гняце душу і стамляе. Вазьміце нашу сённяшнюю рэчаіснасць, у якой я пачуваюся досыць-такі няўтульна. Дзесяткі гадоў дзень пры дні і з ранку да вечара чую знявагу і аплёўванне таго, што для мяне самае дарагое і святое. Не кажучы пра гнюсныя, злосныя, абразлівыя публічныя выпады непасрэдна супраць мяне. Душа стамляецца не столькі ад працы, колькі ад гнёту несправядлівасці, ад горычы перажыванняў, ад безвыходнасці і беспрасветнасці.

**— Чаму беларуская інтэлігенцыя ўвесь час не знаходзіць між сабой агульнай мовы?**

— Адно з самых балючых для мяне пытанняў. Яшчэ нядаўна мне здавалася, што нацыянальна свядомая беларуская інтэлігенцыя агульную мову знаходзіць, толькі не ўмее практычна аб'ядноўвацца для супольнай грамадскай дзейнасці. А сёння — бачу нешта іншае і вельмі-вельмі трывожнае. Павеялі нядобрыя, сіберныя вятры — і многія адразу ж шарахнуліся прэч ад спраў і праблем нацыянальнага адраджэння. Лічыў і верыў, напрыклад, што мой добры знаёмы — актыўны праваднік беларускай ідэі, а гляджу — ужо трэцца аб ногі гаспадара і мяўкае штосьці такое, што аж слухаць брыдка. Хочацца сказаць: браток, ну мінецца ж уся гэта агідная вакханалія, — і што тады? Як тады паглядзіш у вочы знаёмым і свайму народу? Сваім дзецям, браток?

Агульнай мовы не атрымліваецца з тымі, для каго ідэя беларускага нацыянальнага Адраджэння ў прынцыпе непрымальная. Адны з іх — найбольш агрэсіўныя ў адносінах да беларушчыны — прыехалі сюды «на ловлю счастья и чинов», пранікнуцца нацыянальнымі інтарэсамі беларускага народа яны не жадаюць, гэта не адпавядае стратэгічным задачам іх дзейнасці. Другія — гэта вартыя жалю прыстасаванцы тутэйшага паходжання, якія нічога ці амаль нічога не значаць у творчасці і трымаюць нос па ветры, каб усплыць на паверхню і хоць нейкі час папанаваць, пакрасавацца, пакарыстацца дабротамі, вядомасцю... Сумна ад усяго гэтага, ды — што зробіш? У гісторыі многіх народаў падобнае адбывалася, мы тут не выключэнне. Ну як з такімі людзьмі знайсці агульную мову? Пагадзіцца з імі? Прызнаць, што праўда на іх баку? Але ж гэта азначала б — стаць на шлях нацыянальнага самазабойства. Хто з верных сыноў і дачок Радзімы захоча на такое пайсці?

Што ж сёння падтрымлівае маю духоўную моц? А тое, што сярод інтэлігенцыі Беларусі ёсць такія постаці, як пісьменнік В. Быкаў, кінарэжысёр В. Дашук, філосафы У. Конан і М. Крукоўскі, гісторыкі М. Ермаловіч і Л. Лыч, геолаг акадэмік Р. Гарэцкі, мастак Г. Вашчанка і многія іншыя (усіх пералічыць немагчыма), — постаці, наўкола якіх гуртуецца нямала аднаверцаў-паплечнікаў, людзей рознага ўзросту, рознага таленту і творчых магчымасцей, але якія ўсе аб'яднаны тым, чым толькі і можа сёння быць аб'яднана ў нас інтэлігенцыя — ідэяй нацыянальнага Адраджэння пад сцягам вольнай, суверэннай, незалежнай Беларусі.

**— Вы заўсёды былі сацыяльна актыўным членам грамадства. І на пэўным этапе «пайшлі ў палітыку» (дарэчы, як і многія іншыя творчыя людзі Беларусі). Як Вы лічыце, што гэта дало асабіста Вам? Пэўна, не толькі здабыткі, але і страты ў творчым плане?**

— Сказаўшы, «пайшлі ў палітыку», Вы, вядома, мелі на ўвазе маю працу ў Вярхоўным Савеце РБ. Між тым, «палітычнай» я лічу і пасаду першага сакратара Саюза пісьменнікаў, дзе я адпрацаваў звыш дзевяці гадоў. Я згадзіўся на гэту службу толькі дзеля таго, каб хоць у нейкай меры павярнуць усю пісьменніцкую грамаду да праблем беларускай мовы, гісторыі, культуры, адукацыі, выхавання нацыянальнай годнасці. Хацеў бы думаць, што ў нейкай меры гэта мне і ўдалося. Служба ў Вярхоўным Савеце РБ дала мне непараўнана большыя магчымасці папрацаваць на карысць беларускага нацыянальнага Адраджэння. Дастаткова прыгадаць законы, якія былі падрыхтаваны і праведзены на сесіі ВС пры маім непасрэдным удзеле (аб мовах, аб адукацыі, аб культуры, аб сцягу, аб гербе, аб захаванні гістарычнай спадчыны, аб архівах, аб бібліятэках і інш.). Вядома, штодзённая праца ў Вярхоўным Савеце забірала і час і сілы, для творчасці ні таго, ні другога не заставалася. Затое ішло ўзбагачэнне каштоўным жыццёвым вопытам, які, можа быць, яшчэ прыдасца мне і для ажыццяўлення новых творчых задум.

**— Як Вы ставіцеся да такога паняцця, як кампраміс — у палітыцы, у жыцці, у творчасці?**

— У палітыцы кампрамісы абсалютна непазбежныя. Чалавеку, не здольнаму на кампрамісы, у палітыцы няма чаго рабіць. Дарэчы, гэтая няздольнасць вельмі шкодзіла палітычнай дзейнасці некаторых вядомых у Беларусі асоб, ад чаго несла страты справа нацыянальнага Адраджэння і станаўлення дзяржаўнай незалежнасці рэспублікі.

Тое ж самае і ў звычайным, штодзённым побыце людзей. Без кампрамісаў, без узаемных уступак не абыдзешся. Пры ўмове, вядома, што ад іх не церпяць чалавечы гонар і годнасць. Цяжэй вырашаецца гэта праблема ў творчасці. Ісці на кампраміс з чым? З уласным сумленнем? З цэнзурай? І пісаць няпраўду ці не зусім праўду? Ідэальны падыход да праблемы — ніякіх кампрамісаў! Найлепшы творчы вынік (пры іншых роўных даных) бывае іменна пры такіх бескампрамісных рашэннях.

**— Як Вам жывецца ў статусе апазіцыянера?**

— Мая «апазіцыйнасць» — мабыць, не зусім тое, што прыкладаецца цяпер у нас да прафесіянальных, пэўнай арыентацыі, палітыкаў, да многіх грамадскіх і некаторых дзяржаўных дзеячаў. Мая — нашмат шырэйшая. Я ў апазіцыі ўсё сваё свядомае жыццё. У апазіцыі да носьбітаў зла, несправядлівасці, няпраўды, гвалту, невуцтва, пошласці, да тупога чыноўнага самаўпраўства і самадурства, да цынізму каланізатараў і рэптыльнасці халуёў. У апазіцыі да тых, хто чыніць крыўду нашай мове, культуры, духоўнасці, хто зневажае нацыянальную годнасць беларускага народа. Да тых, хто ідзе на здраду нацыянальным інтарэсам Бацькаўшчыны. І ў вершах, і ў паэмах, і ў зборніках сатыры, і ў кнігах публіцыстыкі гэтая мая апазіцыйнасць — як самы чуйны і абвостраны нерв. Ну, а як у такой апазіцыі жывецца? Адкажу так: сумаваць не даводзіцца. Спакойна спаць — таксама.

**— Пагаворым пра сучасную беларускую літаратуру. Яна перажывае крызіс, як і ўсё беларускае грамадства?**

— У пэўнай ступені — так, перажывае. І гэта натуральна. Літаратура — барометр грамадскіх настрояў. Але гэта — тэма асобнай вялікай размовы. Тут магу сказаць толькі наступнае. Па-першае, скоўваюць крылы творцаў апатыя, скруха, калі хочаце — цяжкая глухая злосць. Ну колькі можна змагацца за роднае слова, за яго правы, за яго свабоду? Амаль стагоддзе прайшло ад «Нашай нівы», ад Купалы — а ўсё тое ж самае пад гэтым небам! Якую пяшчотную лірыку, якія паэмы, аповесці, раманы пісаць, калі табе перацінаюць горла?.. Па-другое, тая ідэйна-эстэтычная і маральна-філасофская пераарыентацыя нашай літаратуры, якая пачалася колькі гадоў назад, яшчэ працягваецца, і ў многіх паэтаў і пісьменнікаў гэты працэс праходзіць марудна і досыць хваравіта. Драматычны лёс напаткаў іх — і з гэтым трэба лічыцца. Кажу гэта, зыходзячы і са свайго ўласнага вопыту асэнсавання пражытага і перажытага. Некаторыя, асабліва ў лірыцы, гоняць і далей па інерцыі тую самую, апрыкрую чытачам, псеўдапаэтычную патаку. Не надта цікавячыся, а як яе ўспрымаюць. Найгоршая сітуацыя ў песеннай паэзіі: тут графаманія і беспардоннае эпігонства дасягнулі небяспечных памераў — могуць падарваць беларускую песню знутры. У прозе, здаецца, асабліва значнага твора не паявілася, але многія апавяданні, якія мне ўдалося прачытаць, радуюць не толькі мастацкасцю, але і духам навізны, маральнага абнаўлення.

**— Якім Вам бачыцца лёс Беларусі і беларусаў у Сусвеце?**

— Сыдуць у нябыт усе недарэчнасці і глупствы, за якія сёння сорамна перад светам, заціхне палітычная грызня-калатнеча, справакаваная непамернымі амбіцыямі, — і ў Беларусі ўсталюецца сапраўды дэмакратычны лад, запануе законнасць, кожны грамадзянін зможа свабодна рэалізаваць свае творчыя магчымасці, уздымецца агульны дабрабыт, павысіцца жыццёвы тонус народа, загучыць наўсцяж, ад мяжы да мяжы, беларуская мова, — гэта і будзе тая запаветная будучыня, аб якой марылі нашы папярэднікі і марым мы. Але толькі марыць — мала. Усё гэта можа стаць рэальнасцю толькі ў Беларусі свабоднай, суверэннай, незалежнай. А такую Беларусь яшчэ трэба пабудаваць. На жаль, гэта станецца не так хутка, бо, мяркуючы па сённяшняй сітуацыі, працэс пакуль што ідзе ў адваротным накірунку. Сумна, прыкра, ганебна — але факт.

**— Зараз у справах беларускасці адбываецца адкат назад. І таму многія адчуваюць разгубленасць. Што рабіць? Апусціць рукі і чакаць, спадзеючыся, што ўсё нармалізуецца само сабой?**

— Так, адкат назад ідзе страшэнны. Зноў набірае сілу тая нялюдская тэндэнцыя, што была дзесяткі гадоў пануючай і ўжо ледзь не давяршыла працэс дэнацыяналізацыі Беларусі і асіміляцыі беларускага этнасу. Самае крыўднае і ганебнае, што і многія самі беларусы гэтаму сыходу са шляху Адраджэння на шлях ліквідатарства, нацыянальнага самагубства няйначай як узрадаваліся. Відочна, што шырокія колы нашай грамадскасці так і не зразумелі адной неадменнай ісціны, якую я зараз паўтару ў тысяча першы раз: мова — душа народа; загубіць мову народа — значыць загубіць, умярцвіць яго душу; ну, а народ з мёртвай душой ужо не народ, а труп, бязмоўныя, адмёрлыя народы скідваюцца на гістарычную звалку, іх ужо многа там.

Сапраўднае значэнне і ролю мовы ў гістарычным лёсе народа, у стварэнні нацыі і дзяржавы мы, беларусы, разам узятыя, не разумеем. Мы думаем: галоўнае — наладзіць сацыяльна-эканамічную сістэму, усталяваць жаданы палітычны лад. Забываем, што ўсё гэта — часовае, зменлівае, а мова — вечная, яна абслугоўвае любую сістэму, любы лад, і пакуль яна ёсць — ёсць народ, ёсць краіна, ёсць нацыя. Успомнім гісторыю Францыі: колькі за апошнія дзвесце гадоў адбылося ў ёй сацыяльных і палітычных пераваротаў-перакалотаў, колькі разоў мяняліся дзяржаўныя рэжымы!

Але жыла французская мова — і жыў французскі народ — і жыве Францыя. Глянем і на гісторыю Расіі: феадалізм перарос у капіталізм, капіталізм гвалтам перарабілі на сацыялізм, цяпер запанаваў нейкі дзікі рынак, — але жыла і жыве руская мова, і заўсёды можна было сказаць: «здесь русский дух, здесь Русью пахнет!» (Хоць сёння ўжо там пахне не толькі Руссю, але і чорт ведае чым!)

Ну, а ці пахне ў беларускіх гарадах Беларуссю? У колісь нацыянальна каларытных беларускіх мястэчках? Ні дыху, ні слыху, ні знаку, ні следу. Давялі. Даінтэрнацыяналілі. І якая ж доля прапануецца Беларусі сёння? Сабораўцы, асаднікі, ветэраны: далучыцца да Расіі, стаць яе заходняй губерняй і пакончыць з гэтым праклятым моўным пытаннем. Агульначалавекі-дэмакраты: існаваць незалежна, самастойнай дзяржавай, але... з панаваннем рускай мовы ў ёй. Гэтакай рускамоўнай Аўстрыяй. (А ў перспектыве — можа, і англамоўнай).

Ну што ж, дзякаваць нашым добразычліўцам. І тым, і другім. А як быць і што рабіць нам, беларусам (не па крыві, а па душы, па свядомасці, па сумленню беларусам)? Галоўнае — не падаць духам. Ні ў кога з патрыётаў беларушчыны не павінна быць ні разгубленасці, ні роспачы. І рукі ні ў якім разе апускаць нельга. Трэба выкарыстоўваць магчымасці, якія ёсць, і — працаваць, працаваць, працаваць! З падвоенай і з патроенай энергіяй! Кожны на сваім месцы можа зрабіць зусім нямала — і для практычнага пашырэння нашай мовы ва ўжытку, і для выхавання ў людзей веры, што беларуская мова мае ўсе прыродныя якасці і ад Бога правы, каб жыць вечна, і што яна будзе жыць, што задушыць яе нікому не ўдасца, і што не за гарамі той дзень, калі і на нашу беларускую вуліцу прыйдзе Вялікае Свята.

# НЛА пад каўпаком спецслужбаў

## Адкрытыя выказванні былога работніка былога ўкраінскага КДБ

**Сяргей Павукоў, які не так даўно працаваў ва ўкраінскай контрразведцы (ён займаўся зборам і аналізам інфармацыі аб лятаючых «талерках»), прызнае, што гэтай тэматыкай даўно і сур'ёзна цікавяцца спецслужбы многіх краін. І на Украіне любое паведамленне аб такіх здарэннях абавязкова аказвалася на стале «сакрэтных» спецаў па НЛА.**

Вось, напрыклад, вытрымка з даклада чыноўніка ў вышэйстаячую інстанцыю: «Вечарам у Каросценскім раёне Жытомірскай вобласці па меры набліжэння буйнога НЛА да населеных пунктаў у іх адзначаўся практычна поўны спад электраэнергіі ў лініях перадачы. Калі НЛА падляцеў да станцыі Карасцень-Падольскі, там на некалькі хвілін адключылася ўсё асвятленне, нават семафоры, што пры звычайнай аварыі на лініі практычна немагчыма. Адначасова адключылася і тэлефонная сувязь, на лакаматывах выйшлі са строю рацыі. Машыністы пазней паведамлялі, што ўсюды панавала цемра, гэта адбівалася на маральна-псіхалагічным стане людзей. Пасля адлёту НЛА ўсё, як кажуць, стала на свае месцы...»

Падобных паведамленняў сабралася ўжо нямала. Чаму ж многія ўпарта лічаць «лятаючыя талеркі» выдумкай?

— У фарміраванні такіх поглядаў, — гаворыць былы контрразведчык, — пэўную ролю ў свой час адыгралі спецслужбы ЗША. Яшчэ ў лістападзе 1953 года ЦРУ разам з ваенна-паветранымі сіламі склалі спецыяльны дакумент, які назвалі «Агульнаадукацыйная праграма для насельніцтва». Гэта праграма павінна была дэзарыентаваць як жыхароў ЗША, так і насельніцтва іншых краін (у тым ліку і навуковыя арганізацыі) адносна НЛА. Людзі, на думку яе аўтараў, павінны страціць усякую цікавасць да вывучэння гэтай праблемы. У гэтых мэтах шырока выкарыстоўвалася дэзінфармацыя. І вынік часткова быў дасягнуты. Некаторыя краіны адмовіліся ад даследаванняў НЛА, у тым ліку і былы Савецкі Саюз.

Між тым, шыла ні ў мяшку, ні нават у суперсакрэтным сейфе не схаваеш. Вось прыклад. У верасні 1989 года на прэс-канферэнцыі, наладжанай афіцэрам паліцыі з ЗША А. Додам і фізікам Г. Дж. Азадэндэлам, была зроблена заява афіцэра паўднёваафрыканскай разведкі: «Я ... афіцэр разведкі ПАР, клянуся, што дакумент, які мае назву «Чорны конь», змяшчае інфармацыю, якую я абнародую па ўласнай волі, хоць і даваў падпіску аб невыдаванні тайны». Гэта заява была распаўсюджана Міжнароднай сеткай міжгалактычных даследаванняў — незалежнай арганізацыяй, якая займаецца праблематыкай НЛА.

А справа вось у чым. У 13 гадзін 45 хвілін па Грынвічу, гаворыцца ў суперсакрэтным праекце «Чорны конь», марскі фрэгат даў радыяграму ў Кейптаун аб НЛА, які зафіксаваў радар. Ён праляцеў над Паўночна-Заходняй Афрыкай са скорасцю 9203 кіламетры ў гадзіну. Лятаючы аб'ект выявіла таксама радарная служба міжнароднага аэрапорта ў Кейптаўне. На спробы радыёкантакту НЛА адказу не даў. Два знішчальнікі «Міраж», узнятыя па камандзе з авіябазы, спрабавалі яго адагнаць. Аб'ект змяніў курс і развіў скорасць, недасягальную для ваенных самалётаў.

У 13.59 дадзена каманда прымяніць зброю і адкрыць агонь па аб'екту з устаноўленай на самалёце эксперыментальнай лазернай пушкі. У 14.52 аб'ект пачаў страчваць вышыню са скорасцю 60 км у гадзіну. На вялікай скорасці пад вуглом 20 градусаў ён урэзаўся ў зямлю за 80 кіламетраў ад граніцы ПАР і Батсваны. На месцы здарэння выявілі вялікі кратэр, аб'ект у форме дыска серабрыстага колеру, аплаўленыя камяні, інтэнсіўныя магнітнае і радыяцыйнае палі, якія вывелі са строю ўсю радыёэлектронную апаратуру каманды, прыбыўшай сюды.

Тып карабля невядомы, п. оджанне — таксама; даўжыня яго каля 20, вышыня — 10 метраў, вага — 50 тон; матэрыял канструкцыі патрабуе лабараторных даследаванняў. У час агляду лятальнага апарата пачуўся гучны хлапок, адкрылася збоку нябачная да гэтага часу адтуліна — і... паявіліся два гуманоіды ў серабрыстых камбінезонах. Вось даныя візуальнага медыцынскага абследавання гуманоідаў: рост 120—150 сантыметраў, колер твару — шэра-блакітны, скура гладкая, пругкая, валасоў няма ні на галаве, ні на целе. Галава — вялізная ў параўнанні з чалавечай, чэрап выцягнуты, з цёмна-блакітнымі адмецінамі на галаве, моцна выдзяляліся скулы. Вочы вялікія, скошаныя ўбок, зрэнак не відаць, нос складаецца з дзвюх маленькіх ноздраў, замест рота — невялікая шчыліна без губ, вушных адтулін не выяўлена. Кісць рукі складаецца з трох пальцаў з перапонкамі, пазногці падобныя на пазногці. Ніжнія канечнасці — тонкія, кароткія. Двух гэтых насельнікаў «талеркі» тайком ўтрымлівалі на адной з баз ВПС...



**«ЗЕРНЕВАЯ» ПІКТАГРАМА**

**Піктаграма, даўжынёй амаль 100 метраў, была знойдзена ў полі ў Нямілкаве (Цэнтральная Багемія). На пачатак жніўня гэтага года ў краіне было знойдзена 11 падобных кругоў. Аднак члены Асацыяцыі даследаванняў паранамальных з'яў лічаць, што два з іх — «падробкі». Члены асацыяцыі ўпэўнены, што піктаграмы і кругі пароджаны «хлебным» духам, паколькі чалавек не ў стане іх стварыць. У бліжэйшы час чакаюцца новыя адкрыцці, якія павысяць таямнічасць піктаграм. Аднак час бяжыць, і набліжаецца пара збору ўраджаю.**

**Фота СТК—БЕЛТА.**

Між тым, новыя сенсацыйныя паведамленні не прымушаюць сябе чакаць. Так, напрыклад, сапраўднай Меккай стаў малавядомы гарадок Варджынья ў Бразіліі. Ад турыстаў, якія едуць у гэты край, няма адбою, гасцініцы забіты цікаўнымі. Усё пачалося з таго, калі сярод ночы былі раптам разбуджаны батракі адной з тутэйшых фермаў.

Жывёла проста лютавала, каровы з жудасным мыканнем ірваліся з-за агароджаў. Выглянуўшы ў акно, людзі зразумелі, у чым справа: над загонам для жывёлы паволі і бясшумна плыла серабрыстая цыгара велічынёй з мікрааўтобус. За ёй, як ад рэактыўнага самалёта, ў чыстым небе, цягнуўся белы след. НЛА адразу ж зацікавіліся ваенныя. Тых, хто бачыў цыгару,ператрэслі як след на допытах, а ўсю мясцовасць старанна прачасалі салдаты і паліцэйскія.

Справа ў тым, што ў той жа дзень тры мясцовыя дзяўчыны — Ліліян, Валкірыя і Каціна выпадкова знайшлі за некалькі метраў ад сцежкі, па якой спускаліся, нешта такое, што іх расказ аб убачаным апублікавалі пазней многія газеты свету. Дзяўчаты сустрэлі дзіўную істоту ростам з трохгадовае дзіця. На галаве ў яго тырчэлі тры наросты, скура была карычневая і ліпкая, як ў жабы. «Гэта была не жывёліна і не чалавек, штосьці жахлівае!» — гаварыла 22-гадовая Каціна. Прафесар псіхіятрыі медыцынскага факультэта Гарвардскага універсітэта Джон Мак, які быў тут жа запрошаны ў Варджынью, з дапамогай гіпнозу і іншых метадаў праверыў праўдзівасць расказу дзяўчат. Яго заключэнне: дзяўчаты гавораць праўду.

**Васіль ЗАКРЭЎСКІ**
**(«Труд»).**

## ВІКТАРЫНА

# БЕЛАРУСЬ — ІЕРУСАЛІМ

**Вось і надышоў час падвесці вынікі. Закончыўся 5756 год па яўрэйскім календары. Увесь гэты год быў прысвечаны знамянальнай гістарычнай даце — 3000-годдзю старажытнага горада, сталіцы сталіц — Іерусаліму.**

Увесь свет — ад гарадоў з гучнымі імёнамі да аддаленых куткоў планеты — звярнуў свае позіркі на Горад Давіда. Патокі турыстаў і паломнікаў, маляўнічыя ўрачыстасці і афіцыйныя цырымоніі, творы мастацтва і шчырыя прызнанні ў любові — усё гэта прысвячалася Іерусаліму.

Свой уклад ва ўрачыстасці ўнесла і Беларусь: канцэрты, выстаўкі, літаратурныя вечарыны, конкурсы, віктарыны.

На працягу ўсяго года пасольства Ізраіля знаёміла жыхароў Беларусі з гісторыяй і культурай старажытнага горада. Адным з такіх пазнавальных мерапрыемстваў з'явілася аб'яўленая ў ліпені 1996 года віктарына «Даведацца пра Іерусалім і пабачыць яго на свае вочы». Пасольства Ізраіля ў Мінску атрымала шмат пісьмаў з адказамі, апрацоўка якіх заняла нямала часу. У выніку праверкі вызначыліся тры ўдзельнікі, якія адказалі найбольш правільна. А хто з іх атрымае галоўны прыз — тыднёвую паездку ў Ізраіль — вырашыць розыгрыш-латарэя, якая будзе праводзіцца на заключнай цырымоніі святкавання 3000-годдзя Іерусаліма.

Дзякуем усім, хто прыняў удзел у віктарыне, і друкуем правільныя адказы.

**Пытанне 1:** Мы адзначаем 3000-годдзе Іерусаліма. Што адбылося 3000 гадоў таму?

**Адказ:** Цар Давід абвясціў Іерусалім сталіцай яўрэйскай дзяржавы.

**Пытанне 2:** Сталіца Ізраіля мае многа імёнаў, акрамя «Іерусалім». Назавіце, прынамсі, яшчэ пяць.

**Адказ:** Іевус, Горад Давіда, Рушалеум, Сіён, Арыэль, Карта, Іерасаліна, Іерушалаім, Урусалім, Элія Капіталіна, Горад Божы, Горад Справядлівасці, Эль-Кудс і г. д.

**Пытанне 3:** Галоўныя святыні трох рэлігій у Іерусаліме?

**Адказ:** Сцяна Плачу, мячэць Амара, мячэць Эль-Акса, храм Гроба Гасподняга, вія Далароза...

**Пытанне 4:** Старая частка Іерусаліма абкружана сцяной. Колькі варот у сцяне і як яны называюцца? Якія вароты ў сцяне Старога горада зачынены? Хто іх зачыніў і чаму? Калі, у адпаведнасці з іудаізмам, ісламам і хрысціянствам, гэтыя вароты павінны адчыніцца?

**Адказ:** 8 варотаў. 7 з іх адчынены: Шхемскія (Дамаскія), вароты Ірада, Ільвіныя, Смеццевыя, Сіёнскія, Яфскія і Новыя. Восьмыя вароты — Залатыя, ці вароты Міласэрнасці, — зачынены. Яны павінны адчыніцца, калі прыйдзе Месія.

**Пытанне 5:** Якая даўжыня захаванай часткі падпорнай сцяны другога храма (так званай Заходняй, ці Сцяны Плачу)?

**Адказ:** 485 м.

**Пытанне 6:** Як умацоўваліся каменныя глыбы пры ўзвядзенні Сцяны Плачу?

**Адказ:** Кладка рабілася ўсухую.

**Пытанне 7:** Разбурэнне Іерусалімскага храма — трагічная падзея ў гісторыі народа Ізраіля. У які дзень і як яўрэі адзначаюць жалобу ў сувязі з гэтым?

**Адказ:** У дзевяты дзень месяца Ава. Паводле традыцыі, яўрэям у гэты дзень нельга есці, піць, мыцца і галіцца, насіць скураны абутак.

**Пытанне 8:** Калі і хто пабудаваў першы яўрэйскі раён за межамі крапасных сцен Старога горада?

**Адказ:** У 1859 годзе. Машэ Мантэфіёры — брытанскі фінансіст, грамадскі дзеяч, філантроп.

**Пытанне 9:** Адна з плошчаў у ізраільскай сталіцы называецца плошчай Давідкі. Чаму яна так завецца?

**Адказ:** Давідкай называлі мінамёты, якія кепска стралялі, але наводзілі жах на праціўніка страшэнным грукатам. У цэнтры плошчы на каменным пастаменце — музейны экспанат гэтага пудзіла.

**Пытанне 10:** На якіх пагорках размяшчаецца Іерусалім?

**Адказ:** Скопус, Герцль, Маслічны, Морыя, Цыён (Храмавы).

**Пытанне 11:** Калі Іерусалім быў абвешчаны сталіцай Дзяржавы Ізраіль?

**Адказ:** 13 снежня 1949 года.

**Пытанне 12:** Герб Іерусаліма (ён жа эмблема муніцыпалітэта) зацверджаны ў 1950 годзе. Што сімвалізуюць элементы герба?

**Адказ:** Леў сімвалізуе род Іегуды, які атрымаў ва ўладаранне Іудзею, зямлю, на якой стаіць Іерусалім. На фоне — за львом — сімвалічная выява Сцяны Плачу. Аліўкавыя галінкі з двух бакоў — сімвал міру.

**Пытанне 13:** Хто ўзначальвае муніцыпалітэт Іерусаліма і ў якім годзе ён быў выбраны? Назавіце імя і час знаходжання на пасадзе папярэдняга мэра.

**Адказ:** У 1965 г. гэтую пасаду заняў Тэдзі Колек, а з 1993 года па цяперашні час — Эхуд Альмерт.

**Пытанне 14:** Хто з лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры жыў і памёр у Іерусаліме?

**Адказ:** Пісьменнік Шмуэль Іосеф Агнон.

**Пытанне 15:** У Іерусаліме каля будынка ізраільскага парламента — кнесета — знаходзіцца скульптура-сямісвечнік — мянора. Што яна сімвалізуе і якая яе гісторыя?

**Адказ:** Каля будынка кнесета ўзвышаецца гіганцкі, пяціметровай вышыні, бронзавы падсвечнік — сімвал яўрэйскай дзяржавы, выкананы скульптарам Бено Элькана і падораны англійскай парламенцкай дэлегацыяй дзяржаве Ізраіль на пачатку 50-х гадоў. На мяноры 29 барэльефаў на тэмы яўрэйскай гісторыі.

**Пытанне 16:** Старшыня кнесета (ураджэнец г. Бабруйска) замовіў у мастака (выхадца з г. Віцебска) трыпціх для будынка парламента. Назавіце іх імёны і назвы габеленаў.

**Адказ:** Кадзіш Луз замовіў у Марка Шагала трыпціх: «Прарок Ісая», «Зыход», «Уезд у Іерусалім».

**Пытанне 17:** Колькі іракскіх ракет упала на Іерусалім у час аперацыі «Бура ў пустыні»?

**Адказ:** Ні адной.

**Пытанне 18:** Яўрэйскі мастак Марк Шагал, які жыў у Францыі, падараваў у 1962 годзе серыю цудоўных аконных вітражоў установе ў Іерусаліме. Што гэта за ўстанова і што намалявана на вітражах?

**Адказ:** Сінагога бальніцы «Хадаса» пры Іерусалімскім універсітэце. «12 кален Ізраілевых».

**Пытанне 19:** На тэрыторыі гасцініцы «Халіленд» размешчаны незвычайны макет. Што ён адлюстроўвае?

**Адказ:** Гэта дакладны макет Другога храма і Іерусаліма таго часу, выкананы ізраільскімі майстрамі ў маштабе 1:50.

**Пытанне 20:** Як генерал Аленбі ўвайшоў у Іерусалім у 1917 годзе?

**Адказ:** Перад уездам у Іерусалім генерал Аленбі сышоў з каня і ўвайшоў пешшу, сказаўшы, што ўвайшоў у гэты горад не як захопнік, а як паломнік.

**Пытанне 21:** Праз якія вароты трапілі ў Стары горад ізраільскія парашутысты ў Шасцідзённую вайну? Назавіце дату.

**Адказ:** Праз Ільвіныя вароты. 7 чэрвеня 1967 года.

**Пытанне 22:** У Іерусаліме знаходзіцца дзяржаўная ўстанова-музей, якая вывучае і дакументуе лёс яўрэяў у гады Другой сусветнай вайны. Што азначае яго назва?

**Адказ:** Мемарыяльны інстытут Катастрофы і Гераізму еўрапейскага яўрэйства «Яд ва-Шэм» (пераклад «Памяць і Імя»).

**Пытанне 23:** Адзін з самых вядомых выразаў, які сімвалізуе сувязь яўрэйскага народа з Іерусалімам, утрымлівае словы «правіца». Назавіце фразу і першакрыніцу.

**Адказ:** «Калі я забуду цябе, Іерусалім, хай адсохне правіца мая. Хай язык мой прыліпне да гартані маёй, калі Іерусалім не пастаўлю за найвышэйшую радасць маю!» (Псалмы 137:5-6).

## У ГАСЦЯХ — «ЗОРКА»

### Клара НОВІКАВА:

# «Думаю, што жанчына на сцэне і ў жыцці павінна быць натуральнай»

***Два дні Клара Новікава весяліла мінскую публіку ў канцэртнай зале «Мінск», сыграўшы ролю вядомай «цёткі Соні». Яна арганізоўвала конкурсы, у якіх удзельнічалі толькі мужчыны. Гэтым джэнтльменам вельмі пашанцавала. Яны атрымалі ў падарунак ад гумарысткі гліняную «Цётку Соню» і фотаздымак на памяць. Да таго ж у гасцях у Клары, г. зн. на сцэне, — пакаштавалі Кларынай кавы і адчулі сябе ў ролі бізнесмена «Джорджа». Так называла яна свайго выбранніка.***



***Пасля канцэрта Клара адказала на пытанні журналіста газеты «Звязда»:***

**— Раскажыце пра сябе.**

— Мне, увогуле, няма чаго расказваць, пра мяне і так усе і ўсё ведаюць. Магу толькі адно дадаць: мая кар'ера пачалася ў 1974 годзе.

**— Клара, чым вы прываблiваеце гледача?**

— Адзін Бог ведае чым! Я ніколі не змагаюся за гледача. Калі людзям падабаюцца мае выступленні, яны прыходзяць і слухаюць. Але пакуль яшчэ публіка сама прыходзіць, яе нiякімі спосабамі заманьваць не трэба.

**— Як «зорка» праводзіць свой вольны час?**

— У мяне вольнага часу практычна няма, быў час, калі я адпачывала, але часу на адпачынак застаецца вельмі мала. Сёлета «змарнаваць» гэтыя імгненні вырашыла ў Прыбалтыцы. Разам са мною адпачывалі Мікіта Міхалкоў, Міхаіл Задорнаў. 24 чэрвеня я зрабіла круіз на параходзе — хоць крыху адпачыла ад работы. Зараз зноў занялася ёю.

**— Ці падабаецца вам адпачываць за мяжой?**

— Толькі не гэта. Я была ў Турцыі, Грэцыі, але я думаю, лепшага адпачынку, чым у Прыбалтыцы не знайсці. Праўда, паездка ў Прыбалтыку зараз каштуе даражэй, чым у Грэцыю ці Турцыю.

**— Якой ежы вы аддаяце перавагу?**

— Увогуле я вяду вегетарыянскі лад жыцця, ужо сем гадоў прайшло з таго часу, як не ўжываю мяса.

**— Ці ёсць у вас «сакрэт кухні»?**

— Вядома, ёсць, як і ў любой гаспадыні. Бяру лімон, разразаю яго на круглыя долькі, пасыпаю цукрам і кавай, з абодвух бакоў кладу кавалачкі сыру. Вельмі смачна!

**— Як вы прымаеце гасцей, ці часта гэта бывае?**

— Даволі часта. Проста я наперад ведаю густ майго госця. Напрыклад, журналістка Рэгіна Дубавіцкая любіць паесці нямнога, але ўжывае ўсё далікатнае. Валодзю Вінакуру рэстаран падавай! Я выконваю любы капрыз таго, каго запрашаю.

**— Як вы ставіцеся да жанчыны-гумарысткі наогул?**

— Я не думаю, што жанчына-гумарыстка павінна быць смешная, нязграбная, з тварам, як у Крамарава. Толькі вытрашчыць вочы — народ са смеху падае. Але я такая, якая ёсць. Мяркую, жанчына-гумарыстка на сцэне і ў жыцці павінна быць натуральнай.

**— Што б вы пажадалі жанчынам Беларусі?**

— Каб яны кахалі і былі каханымі.

**Вольга РАМАНЮК.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Сям'я партугальцаў з горада Каімбра, адпраўляючыся ў канцы чэрвеня на адпачынак у кемпінгу на поўначы краіны, узяла з сабой сямігадовую кошку Камілу, а яна ў незнаёмым месцы згубілася. Цэлы тыдзень шукалі прапаўшую любіміцу засмучаныя гаспадары, ды так і не знайшлі. Праз некалькі дзён пасля вяртання з адпачынку яны заўважылі каля свайго дома нейкую кошку. Гэта і была іх Каміла, змардаваная 200-кіламетровай дарогай, якую ёй прыйшлося прайсці, каб вярнуцца назад.

**Асашыэйтэд Прэс**

Дваццаць англічанак і ірландак адабраны ў састаў чыста жаночай экспедыцыі да Паўночнага полюса, якая намечана на наступную вясну. Для ўдзелу ў паходзе заяўкі падалі 60 жанчын, аднак многія не вытрымалі суровых двухдзённых спаборніцтваў. У выніку, як заявіў арганізатар падарожжа, каманда будзе складацца з самых моцных, самых храбрых дам. Кожная лэдзі павінна заплаціць за выхад на маршрут паўтары тысячы фунтаў.

**Рэйтэр**

36,6°

# ЕШЦЕ ЯБЛЫКІ І БУДЗЬЦЕ ЗДАРОВЫМІ!

**«Штосьці я ўсё блытаю і забываю — напэўна, склероз», — так часта гавораць не толькі пажылыя людзі. У большасці выпадкаў прычынамі склерозу з'яўляюцца розныя запаленчыя захворванні, а таксама парушэнне абмену рэчываў.**

**Метадамі народнай медыцыны можна аблегчыць стан хворага, а пры спрыяльных абставінах і вялікім жаданні — вылечыць яго. Вось некаторыя парады з кнігі Н. І. Мазнева «Народныя спосабы лячэння хвароб».**

## Склероз

❑ Арганічныя солі са сценак сасудаў выводзіць сафора японская. Яна ачышчае кроў.

Вазьміце 50 г кветак або пладоў сафоры і заліце 0,5 л гарэлкі. Настойвайце на працягу месяца. Піце па 1 ч. лыжцы 3 разы на дзень на працягу 3-4 месяцаў. Тым, каму нельга ўжываць спіртное, трэба заварваць 1 ст. лыжку сафоры шклянкай кіпеню і настойваць ноч у тэрмасе. Піць па 1-2 ст. лыжкі 3 разы на дзень.

❑ Неарганічныя солі выводзіць амяла белая. Яна супакойвае, рэгулюе ціск. Расліну высушыце і патаўчыце на парашок. Заварыце шклянкай кіпеню 1 ч. лыжку гатовага парашку і настойвайце ноч у тэрмасе. Піце па 2 ст. лыжкі маленькімі глыткамі за 15—20 хвілін да яды на працягу 3-4 месяцаў. Спалучэнне амялы і сафоры добра ачышчае сасуды, робіць іх эластычнымі. Карысна прымяняць гэтую расліну тым, каму за 40.

❑ Напоўніце палову літровага слоіка высушанымі ружовымі галоўкамі канюшыны, заліце іх 0,5 л гарэлкі і пастаўце на 2 тыдні ў цёмнае месца. Піце па 1 ст. лыжцы перад сном. Курс лячэння 3 месяцы, перапынак 2 тыдні.

❑ Змяшайце 20 г травы крываўніку, 20 г амялы белай, 50 г цыстазіры барадатай. Шклянкай кіпеню заварыце 1 ст. лыжку сумесі. Настойвайце, ухутаўшы, 2 гадзіны. Затым працадзіце. Піце глыткамі на працягу дня.

❑ Змяшайце 10 г пладоў кмену, 10 г травы руты, 10 г травы мелісы, 15 г кораню валяр'яну, 20 г кветак глогу, 20 г лісця барвенку, 30 г травы амялы белай, 20 г пладоў шыпшыны. Заварыце шклянкай кіпеню 1 ч. лыжку сумесі, настойвайце адну гадзіну. Піце глыткамі на працягу дня.

❑ На працягу месяца піце па 30—40 кропель настойкі араліі маньчжурскай 3 разы на дзень перад ядой. На 1/2 шклянкі вады або 50 мл спірту — 1 ч. лыжку сыравіны.

❑ Заварыце шклянкай кіпеню 20 г ягад глогу, настойвайце 2 гадзіны, піце як чай.

❑ Заварыце дзвюма шклянкамі кіпеню 3 ст. лыжкі здробненага кораня дзьмухаўцу, давядзіце да кіпення, гатуйце 15 хвілін на слабым агні. Піце па 1 ст. лыжцы 2 разы на дзень за 30 хвілін да яды. Выкопвайце карані або ранняй вясной, або пасля засыхання лісця.

❑ Настойвайце 40 г травы канюшыны лугавой на 0,5 л 40-працэнтнага спірту на працягу 10 дзён. Прымайце перад абедам або перад сном па 20 г.

❑ Змяшайце па 10 г крапівы двухдомнай і травы крываўніку. Заліце 1 ст. лыжку сумесі 0,5 л вады і гатуйце 10 хвілін. Прымайце па паўшклянкі на ноч.

❑ Дэсертную лыжку кветак (лісця, насення або ўсё разам) грэчкі пасяўной заліце 0,5 л кіпеню, настойвайце, ухутаўшы, 2 гадзіны. Працадзіце. Прымайце па 1/2 шклянкі 3-4 разы на дзень. Піце і пры рассеяным склерозе.

❑ Заліце шклянкай кіпеню 1 ст. лыжку сухога здробненага лісця трыпутніку. Настойвайце адну гадзіну. Піце глыткамі на працягу гадзіны — сутачная доза. Можна выкарыстаць свежае лісце трыпутніку. Нарэжце, размякчыце, выцісніце сок і змяшайце з роўнай колькасцю мёду. Варыце 20 хвілін. Прымайце па 2-3 ст. лыжкі на дзень. Захоўвайце ў прахалодным месцы ў добра закрытай пасудзіне.

## Рассеяны склероз і атэрасклероз

❑ Змяшайце свежы сок цыбулі з мёдам: адна шклянка соку на адну шклянку мёду. Прымайце па 1 ст. лыжцы 3 разы на дзень за гадзіну да яды або паміж ядой на працягу трох тыдняў. Пры неабходнасці прадоўжыце лячэнне да двух месяцаў.

❑ Заварыце шклянкай кіпеню 1 ст. лыжку лісця суніц і настойваце адну гадзіну. Піце як чай на працягу дня.

❑ Заліце шклянкай халоднай вады 2 ч. лыжкі карэнішча дзевясілу. Настойвайце 3 гадзіны, затым пастаўце на агонь і давядзіце да кіпення. Гатуйце на малым агні 10 хвілін. Працадзіце. Піце па 2 ст. лыжкі 3 разы на дзень.

Правільна харчуючыся, можна прадухіліць або запаволіць хваробу.

**ЧАСЦЕЙ УЖЫВАЙЦЕ:**

1. Буракі, яблыкі, часнок, кіслае малако.
2. Яблычнае пюрэ, чорныя парэчкі, марскую капусту.
3. Брусніцы, хрэн, цыбулю, суніцы, часнок, гарчыцу, капусту.
4. Кветкі дзьмухаўцу, ружы, фіялкі, акацыі, канюшыны.
5. Лісце ліпы, акацыі, ясеню, маліны, суніцы, хмелю, чорных парэчак, барбарысу, гемаройнай травы, піжмы, трыпутніку, шыпулькі лістоўніцы.
6. Бацвінне буракоў, морквы, радыскі, рэдзькі, сельдэрэю, рэвеню, спаржы, агурочнай травы.

Прымаючы рэгулярна сок рэдзькі з мёдам (па густу), можна папярэдзіць развіццё атэрасклерозу і камянёў у печані. Для прафілактыкі хваробы як мага часцей ешце яблыкі. Пекцін, які ўтрымліваецца ў іх, выводзіць з арганізма ўсё лішняе і халестэрын.

Карысна ў дзень ужываць 20 г алею, або сок граната, або сок граната з растворанымі ў ім лімоннай кіслатой і цукрам, або 100 г нятлустага тварагу.

*«Работница».*

# Post Factum

## Гэты дзень у гісторыі

**19 верасня 1016 года** ў Смаленску Святаполкам Акаянным быў забіты прававерны князь Глеб.

**19 верасня 1883 года** быў заснаваны шклозавод «Нёман» у Бярозаўцы Лідскага раёна.

**19 верасня 1911 года** нарадзіўся Уільям Голдынг, англійскі пісьменнік. Яго раманы «Уладар мух», «Шпіль» спалучаюць у сабе элементы міфа, рэлігійнай і фрэйдзісцкай сімволікі з рэалістычным адлюстраваннем характараў і абстаноўкі.

**У гэты дзень у 1935 годзе** памёр Канстанцін Цыялкоўскі, расійскі вучоны і вынаходнік у галіне аэрадынамікі і ракетадынамікі, тэорыі самалёта, заснавальнік сучаснай касманаўтыкі.

**У гэты дзень у 1986 годзе** прыняты падагульняючы дакумент Стакгольмскай канферэнцыі па мерах умацавання даверу і раззбраенню ў Еўропе.

**19 верасня 1991 года** сесія Вярхоўнага Савета БССР прыняла новую назву дзяржавы — Рэспубліка Беларусь і зацвердзіла ў якасці дзяржаўных сімвалаў — бела-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня».

## Дзесьці на белым свеце

***Канадскія інжынеры збіраюцца выкарыстоўваць для ахаладжвання і кандыцыяніравання паветра ў вышынных збудаваннях дзелавога цэнтра Таронта холад, які назапашаны ў глыбінях возера Антарыо.***

Вада на глыбіні 80 метраў увесь год захоўвае тэмпературу каля 4 градусаў. Праект прадугледжвае будаўніцтва водазаборнага тунеля да дна возера. Помпавая станцыя будзе забіраць да 178 млн. кубаметраў халоднай вады ў год і па трубах рассылаць яе па будынках. Для работы гэтай сістэмы патрабуецца ў 10 разоў менш электраэнергіі, чым пры звычайным кандыцыяніраванні паветра, а акрамя таго, знікне патрэбнасць у фрэонах, якія выкарыстоўваюцца ў кандыцыянерах і разбураюць азонавы слой.

❑

***Шэсць чалавек (чацвёра з іх — члены адной сям'і) загінулі разам на поўдні Егіпта.***

Першай утапілася маленькая дзяўчынка, якая спусцілася ў калодзеж, каб выцягнуць упаўшае туды кураня. Астатнія развіталіся з жыццём, спрабуючы выратаваць яе.

Кураня засталося жыць...

## Цікава

***Згодна з апошнімі статыстычнымі звесткамі, самыя вялікія аматары падарожжаў у свеце — немцы.***

Летась яны зрабілі 77 мільёнаў паездак за мяжу. На другім месцы — амерыканцы — «усяго» 44 мільёны, на трэцім — англічане — 39 мільёнаў турпаездак. Японцы падарожнічаюць адносна нямнога — яны толькі на восьмым месцы, затое грошай у падарожжах трацяць больш за ўсіх. А сярод самых наведваемых краін на першым месцы Францыя: штогод яе наведвае больш як 60 млн. турыстаў.

## А яшчэ быў выпадак

За крадзеж 40 тысяч долараў адзін тайландскі чыноўнік быў прыгавораны мясцовым судом да 4220 гадоў турэмнага зняволення. Аднак, улічваючы чыстасардэчнае прызнанне ім сваёй віны і поўнае раскаянне, апеляцыйны суд зменшыў гэты тэрмін... аж напалавіну!

## Неверагоднае, загадкавае...

***Амерыканскі этнограф Джым Форстэр са сваёй чарговай паездкі ў Афрыку прывёз сапраўдную сенсацыю: у адным з плямён афрыканскіх пігмеяў жыве «маленькі прынц», ці «зорны хлопчык».***

Пражыўшы ў племені паўтара года, ён пакрысе заваяваў давер маленькіх паляўнічых (так называюць пігмеяў за невысокі рост — 80—90 см), і тыя расказалі вучоным, што частку сваёй здабычы, а таксама плады, карэнні і іншае яны штодзённа прыносяць свайму «нябеснаму брату», які жыве на беразе ручая. Дж. Форстэр напрасіўся ў іх паказаць яму гэтага «брата». Старэйшы з пігмеяў расказаў, што «брат» прыйшоў да іх з неба ў блакітным шары з агню.

На наступны дзень Джым з некалькімі паляўнічымі накіраваўся да берага ручая. Каля вады ён заўважыў незвычайную істоту: ростам не больш як 70 см, пакрытую шэра-зялёнай скурай, амаль бязносую, з непрапарцыянальна вялікімі чорнымі вачыма. Заўважыўшы паляўнічых, істота знікла ў зарасніках травы, адкуль і назірала за ахвярапрынашэннем. Ні наблізіцца да сябе, ні сфатаграфаваць яна не дала. «Хутка паляціць назад, — сказалі вучонаму пігмеі, — на сваё неба». Нічога падобнага ні сам Форстэр, ні жыхары гэтых мясцін не назіралі. Хто гэта? Прышэлец? Выходзіць, Экзюперы не фантазіраваў?

## Анекдот

*— Што ты падарыў, Сямён, сваёй жонцы на дзень нараджэння?*

*— Яна намякала, што хацела б што-небудзь для шыі і запясцяў.*

*— І ты, безумоўна, падарыў кальё і бранзалеты?*

*— Не адгадаў! Я падарыў ёй кавалак туалетнага мыла.*



## ВІНШАВАННІ

*Віншуем з днём нараджэння дарагую мамачку і бабулю* ***Таццяну Ціханаўну Лягун.*** *Жадаем здароўя, радасці, удачы.*

**Дочкі Жанна, Оля, унучка Алёнка.**

*Віншуем з днём нараджэння* ***Веру Аляксееўну Варанцову.*** *Зычым ёй здароўя і шчасця.* **Сям'я Русецкіх,** *г. Мінск.*

*Віншуем дарагую дачку* ***Надзею*** *і ўнучку* ***Кацю Пронькіных*** *з днём нараджэння (Калінкавічы). Жадаем моцнага здароўя і доўгіх гадоў жыцця.* **Сям'я Грамовічаў.**

*Любага* ***мужа*** *віншую з днём нараджэння. Дзіма! Здароўя, шчасця, поспехаў табе. Любі мяне заўсёды.* **Кіркоўская Іра.**



## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 19 верасня

**Беларускае тэлебачанне**

**8.55** «Дзяжурная аптэка». Тэлесерыял. **9.55** Каралеўскае паляванне. **15.00** Навіны. **15.15** «Фліпер». Тэлесерыял для дзяцей. **15.45** Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 10-ы клас. «Маё сэрца поўнае любасці» (У. Жылка і яго творчасць). **16.15** Радавод. Народныя спявачкі вёскі Левашы Рэчыцкага раёна. **16.45** Кантрасты. Прававая праграма. **17.15** Урокі Наталлі Наважылавай. **17.45** Музычны антракт. **17.55** «Ты даруй мне, каханая...» Тэленарыс. **18.25** Эканамікст. **18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.00** Рэферэндум: шчырая размова. **19.35** «Дзяжурная аптэка». Тэлесерыял. **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** Музычны антракт. **22.10** «Артыстка з Грыбава». Тэлевізійны маст. фільм. 2-я серыя. **23.15** Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок». «Оскар». Тэлегульня. **23.45** «Крок». Праграма для моладзі. **0.15** Навіны.

**ГРТ**

**8.00** Навіны. **8.15** «Новая ахвяра». **9.00** «Парыжскія тайны Эльдара Разанава». Клаўдзія Кардынале. **9.40** «Клуб падарожнікаў» (з сурдаперакладам). **10.25** «Казка пра казку». Мультфільм. **10.40** Смак. **11.00** Навіны (з сурдаперакладам). **11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Пад дахам свету». **11.55** «Рэкет» 3-я серыя. **12.50** «Нетаропка і падрабязна...» Сустрэча з Леанідам Філатавым. **13.30** «Айбаліт і Бармалей», «Таёжная казка». Мультфільмы. **14.00** Навіны (з сурдаперакладам). **14.20** «Горад сабак». **14.45** Лего-го! **15.10** Цін-тонік. **15.40** «Элен і хлопцы». **16.05** Рок-урок. **16.30** «Вакол свету». Па старонках перадачы «Клуб падарожнікаў». **17.00** Навіны. **17.20** «Новая ахвяра». **18.05** Гадзіна пік. **18.30** «Грай, гармонік любы!» **19.00** «Сам-насам». **19.45** «Добрай ночы, малышы!» **20.00** Час. **20.35** Праграма перадач. **20.40** Захват пасольства ў баевіку «Хто рызыкуе — перамагае». **23.00** Кубак свету «Майстар-ралі-96». Парыж—Масква—Байканур—Улан-Батар. **23.15** Навіны. **23.25** «Абоз». Шоу Івана Дзямідава.

**Расія**

**8.00** Рэтра-шлягер. **8.30** Дарагая рэдакцыя... **8.55** «Санта-Барбара». **9.50** Тавары — поштай. **10.20-11.30** Н. Гундарава і К. Райкін у фільме «Труфальдзіна з Бергама». 1-я серыя. **16.20** Блакнот. Музычна-інфармацыйная праграма. **16.30** «Чэленджэрс». Серыял для падлеткаў. **17.00** Залежыць ад цябе. **17.15** Экспа-веснік. **17.30** Ваша права. **18.00** Новае пятае кола. **18.40** «Цёмная» для В. Зоркіна. **19.30** «Санта-Барбара». Маст. фільм. **20.25** Лато-мільён. **20.40** Раз у тыдзень. **21.10** Надвор'е на заўтра. **21.15** Фантастычны свет. «Месяц-44». Маст. фільм (ЗША). **23.20** Тавары — поштай. **23.30** Музыка ўсіх пакаленняў. **23.40** «Хто на што здатны». Конкурсная праграма. **23.55** Гукавая дарожка.

**Санкт-Пецярбург**

**11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 22.15, 23.50** Інфарм ТБ. **12.10** «Першае каханне». Серыял. **13.00** Тэрмін адказу— сёння. **13.30** Парады садаводам. **13.40, 20.40** Тэлеслужба бяспекі. **14.10** «Жыццё Кліма Самгіна». Серыял. 12-я серыя. **15.20** II Міжнародны тэатральны фестываль імя А. П. Чэхава. Передача 1-я. **15.45** «Гліняная казка». Мультфільм. **16.10** Парадоксы гісторыі. «Па слядах тайнай арганізацыі». **16.35** «Філасофія па Філу». Серыял для падлеткаў. **17.00** Стыль жыцця. **17.05** Дзіцячае ТБ: «Дзецям пра звяранят». **17.35** Паказвае Ленінградская абласная тэлекампанія. **18.40** Вялікі фестываль. **19.15** Спорт. **19.20** «Першае каханне». Серыял. **20.10** Асабістая справа. **20.55** Спартыўны агляд. **21.05** «Жыццё Кліма Самгіна». Серыял. 12-я серыя. **22.30** Канцэрт для Антаніны Шуранавай. **23.10** «Тэлекампакт». Музычнае шоу.

**НТБ**

**6.20** «Мафія-2». Серыял (Італія). 2-я серыя. **7.10** «Кашалёк ці жыццё». Маст. фільм (Германія). **9.20** Маст. фільм «Цудоўныя гады». **9.45.** Дак фільм «Успомнім тыя гады. 1974». **10.40** «І злодзеі каюцца» (ЗША). **12.10** Фестываль міні-серыялаў. «Здзелка Райнмана». (ЗША).

**Расійскія універсітэты**

**14.40** «Абстракцыя ў фарбах». Дак. фільм. **15.00** Маленькі канцэрт С. В. Рахманінава. Духоўная музыка. **15.20** Ю. М. Лотман. Гутаркі аб рускай культуры. Перадача 4-я. **16.00** Музычныя навіны. **16.10** «Брадвей» нашага юнацтва». Дак. фільм А. Габрыловіча. Частка 4-я **16.40** Навіны.

**НТБ**

**17.00** Дак. фільм «Дзікая прырода: барацьба за жыццё». **15.30** Жаночыя гісторыі. «Яе першы мужчына» (Францыя). 2-я серыя. **18.00, 21.00, 23.00** Сёння. **18.35** Герой дня. **19.00** Джон Карпентэр. Маст. фільм «Хто сочыць за мной» (ЗША). **20.40** «Доктар Вугал». **21.35** «Здзелка Райнмана». Міні-серыял. (ЗША). 2-я серыя. **22.30** Часінка. **23.20** Сусветная шахматная Алімпіяда. **23.25** Маст. фільм «Новая хваля» (Францыя—Швейцарыя).



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Першы намеснік галоўнага рэдактара М. МІХАЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400, Маскве — 365-16-44; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852. Індэкс 63850.
Зак. № 6180.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12